ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 36 (2386) 8 верасня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 20 рублёў.

## СВЯТА БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ





**Беларусь вызначыла яшчэ адно сваё нацыянальнае свята -- Дзень беларускага пісьменства і друку, якое штогод будзе адзначацца ў пачатку верасня. Сёлета яно стартавала з навукова-творчай экспедыцыяй "Дарога да святыняў", якая пачалася 27 жніўня ў Мінску на вуліцы Кірылы і Мяфодзія. Само свята пройдзе 4 верасня ў Полацку, а пакуль удзельнікі экспедыцыі -- пісьменнікі, вучоныя, навукоўцы, царкоўныя дзеячы, журналісты -- адправіліся па гістарычных мясцінах рэспублікі, што складаюць нацыянальную гордасць беларусаў. І на ўсім шляху экспедыцыю будзе суправаджаць Нязгасная лампада духоўнасці са святым агнём ад Гроба Гасподня, запаленая ў 1992 годзе ў Іерусаліме.**

**НА ЗДЫМКАХ: пачатак экспедыцыі ад Свята-Духава кафедральнага сабора ў Мінску. У дарогу блаславіў яе Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі ФІЛАРЭТ.**



## ДЗЕЛЯ АДНАЎЛЕННЯ ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ

Без гістарычнай памяці няма культуры, немагчыма адрадзіць нацыянальную самасвядомасць, захаваць нацыю. Таму апошнім часам мы ўсё часцей звяртаемся да важных гістарычных падзей у лёсе Беларусі. Адной з такіх падзей было паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі.

У студзені 1793 года адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. Стала зразумелым, што ад канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай паміж Расійскай імперыяй, Прусіяй і Аўстрыяй можа выратаваць толькі рашучае выступленне супраць агрэсараў. Выступленне пачалося з абвяшчэння 24 сакавіка 1794 года Кракаўскага акта паўстання. Гэтым актам былі вызначаны асноўныя мэты паўстання: барацьба за поўную суверэннасць Рэчы Паспалітай, аднаўленне яе ў межах 1772 года, пазбаўленне ад іншаземнай акупацыі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ЦУД КОЛЕРУ ГУСТОГА МЁДУ

З ганчаром Мішай Каробкіным я пазнаёмілася выпадкова. Ішла па праспекце і каля Мастацкага салона раптам заўважыла незвычайнай прыгажосці і форм вазы, падсвечнікі і амфары. Убачыўшы патэнцыяльнага пакупніка, адразу падышоў майстра, які аказаўся зусім маладым хлопцам. Разгаварыліся, і хутка высветлілася, што Міша родам з Івянца, горада беларускіх майстроў. Расказаў мне Міша легенду, якая спрабуе растлумачыць, чаму горад носіць такую назву і якім чынам у невялікім мястэчку сканцэнтравалася такая колькасць таленавітых людзей. Ехала быццам бы некалі нейкая царыца ў тых краях па масце праз рэчку, выглянула ў акно, але можа карэта ў той момант пахіснулася, можа вецер падзьмуў, толькі ўпаў у ваду яе вянец, якім царыца вельмі даражыла за яго незвычайную прыгажосць і чароўныя якасці. Усклікнула царыца: "Й... вянец!..", але было ўжо позна, і згінула бясследна яе любімая каштоўнасць. Так і назвалі горад, дзе адбылося гэтае здарэнне. Але ўласна мне падаецца, што хітрыя івянчане вылавілі потым употай той чароўны вянец, і асвяціў ён святлом прыгажосці і таленту ўсё, да чаго дакраналіся рукі працавітых гараджан. У былыя часы ў Івянцы былі прадстаўлены практычна ўсе народныя промыслы, і на кожнай вуліцы жылі свае музыкі, ткачы, кавалі і, канешне ж, ганчары. Між іншым, Міша ганчаром станавіцца не збіраўся, і сярод яго сваякоў нікога, хто б займаўся гэтай справай, не было. Пасля школы хлопец марыў паступіць на юрыдычны факультэт, але нешта не ладзілася з англійскай мовай, і нічога не атрымалася. Можа, Міша са мною не згодзіцца, але думаю, што гэта да лепшага. Ну, стаў бы ён адным з многіх следчых ці пракурораў, але тады б загінуў, не раскрыўшыся, у ім талент унікальнага майстра, працы якога ні зблытаць, ні параўнаць ні з чым немагчыма. А тады, пабачыўшы як засмуціўся Міша, стары сусед, вядомы ганчар, сказаў: "Ідзі да мяне, навучу сваёй справе. Засвоіш прафесію -- заўсёды будзеш мець свой кавалак хлеба". Памёр ужо той майстар, але Міша дагэтуль яго добрым словам успамінае.

-- Навучыць ганчарнай справе немагчыма, -- гаворыць Міша. -- Трэба проста глядзець і запамінаць, пакуль пальцы самі не пачнуць адчуваць кожны подых гліны, што ў руках сапраўднага майстра становіцца жывой, паслухмяна адгукаецца на самы пяшчотны дотык і найлягчэйшы паварот ганчарнага круга. Уздрыгне рука -- выкідвай вазу.

Вучыўся Міша хутка, працаваў з мастакамі і старымі майстрамі, і ад кожнага старанны вучань нешта пераняў, а калі накапілася дастаткова ведаў, то перайшлі яны ў новую якасць -- самастойную творчасць, уласнае майстэрства. І сталі тады нараджацца ў Мішы тыя непаўторныя лініі, якія сёння прымушаюць спыняцца каля яго работ нават самых тонкіх знаўцаў керамікі, формы, што спалучаюць у сабе традыцыйныя нацыянальныя рысы і ў той жа час нагадваюць грэчаскія пелікі і амфары. А іншы раз увогуле нельга знайсці аналагаў таму, што выходзіць з-пад яго рук. Адкуль гэта? Што за матывы? Кім падказаны? Дзе ўбачаны? Любая асацыяцыя можа выклікаць нараджэнне новага вырабу. Некалі выпадкова ўбачанае трапляе ў падсвядомасць і потым паўстае адтуль новымі незвычайнымі формамі. Міша гаворыць, што зараз ён здольны зрабіць каля трохсот збаноў і ваз, якія будуць непадобныя адна на адну. Марыць, давесці колькасць самастойных формаў да пяцісот.

Спачатку Міша пакрываў свае творы паліваю, але бачылася яму ў ёй нешта ненатуральнае, занадта бліскучае, ці што. Гладкае пакрыццё быццам бы хавала сапраўдную душу твора, яго прыродную фактуру. І ён успомніў і аднавіў старадаўнюю тэхніку захоўвання вырабаў з гліны, якая існавала яшчэ да таго, як людзі навучыліся варыць шклопадобную масу. У тыя далёкія часы майстры пакрывалі свае работы пчаліным воскам, а потым паліравалі іх. Такі посуд не прапускае ваду, у ім удвая даўжэй захоўваюцца прадукты, не вянуць кветкі, бо такое пакрыццё пакідае адкрытымі нябачныя поры, праз якія праходзіць паветра, дазваляючы пасудзіне "дыхаць". Гладкая паверхня залацістага колеру прыемна халодзіць далонь і прыцягвае погляд. Нібы чараўніцтва ў гэтым нейкае ёсць: глядзіш на такую вазу, і супакойваецца душа, сціхаюць хваляванні. А яна, прыгожая, строгая, недаступная, нібы тая царыца, што згубіла некалі ля беларускай вёскі свой вянец, красуецца, ганарыстая і незалежная, як сама дасканаласць.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*СЛАВУТЫЯ БЕЛАРУСЫ*

### БАРЫСУ КІТУ — ГАНАРОВЫЯ ЗВАННІ

**Прафесара Барыса Кіта сёння можна з поўным правам назваць адным з самых вядомых беларусаў, якія пражываюць за межамі нашай краіны. Матэматык, фізік, хімік, доктар філасофскіх навук у галіне матэматыкі і гісторыі навукі, акадэмік Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі, старэйшы сябра амерыканскага Астранаўтычнага таварыства -- вось далёка не поўны пералік навуковых "тытулаў" нашага славутага земляка, які збіраецца ў канцы верасня наведаць сваю Бацькаўшчыну. Трэба сказаць, што да шматлікіх званняў, якія носіць Барыс Кіт, дабавілася яшчэ адно -- вучоная рада Гродзенскага універсітэта прысвоіла яму званне Ганаровага прафесара, а Наваградак, з якім звязана маладосць вучонага, дзе ён некалі скончыў гімназію, а потым працаваў і яе дырэктарам, назваў яго першым ганаровым грамадзянінам гэтага горада. Сам жа Барыс Кіт перадаў Наваградскаму краязнаўчаму музею ўласны архіў, па яго ініцыятыве ў горадзе плануецца адкрыць філіял беларускага універсітэта культуры.**

*ПРЭЗЕНТ ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА*

### СЦІПЛЫ ЮБІЛЕЙ

**30 жніўня прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка адзначыў сваё 40-годдзе. Свята з гэтай нагоды не было. А кіраўнік Саюза прадпрымальнікаў рэспублікі Уладзімір Карагін падарыў прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку ў дзень яго саракагоддзя тысячастаронкавую працу Майкла Портэра "Міжнароднаая канкурэнцыя". Гэтая кніга ўтрымлівае рэцэпты аздараўлення эканомікі.**

*ФОНД СОРАСА*

### ВІЦЕБСК БУДУЕ МАСТЫ

**Віцебск стане першым горадам Беларусі, дзе адкрывае свой філіял славуты Фонд Сораса -- Беларусь.**

**Як лічыць яго выканаўчы дырэктар -- амерыканская журналістка Элізабет Смедлі, намаганні віцебскай інтэлігенцыі па адраджэнню ў горадзе і вобласці культуры, навукі, духоўнасці ўвогуле як нельга больш адпавядаюць галоўнаму імкненню заснавальніка фонду Джорджа Сораса -- будаваць масты паміж краінамі.**

**Сярод мноства праектаў, што ўвайшлі ў праграму работы новага філіяла, на першым месцы -- стварэнне Цэнтра сучаснага мастацтва. Сярод іншых цікавых праектаў філіяла -- праграма псіхалагічнай адаптацыі чарнобыльскіх дзяцей.**

*МІГРАЦЫЯ*

### ДА НАС ЕДУЦЬ СПАКОЙНА...

**Як паведамілі ў міграцыйнай службе Дзяржкампрацы, у рэспубліку з пачатку года прыехала больш за 2 500 бежанцаў, што прадстаўляюць 21 нацыянальнасць, у тым ліку 781 чалавек -- рускія. У параўнанні з мінулым годам гэта крыху менш. Хоць наша краіна і спакойная, але шмат турбот даводзіцца зведаць людзям, што прыязджаюць на Беларусь. Пакуль у нас не прыняты закон аб бежанцах. У верасні на сесіі Вярхоўнага Савета лёс яго павінен вырашыцца. А таму пакуль і з прапіскай, і з працай для бежанцаў -- адны праблемы. Дзякуючы бежанцам, насельніцтва рэспублікі з 1991 года павялічылася больш чым на 20 тысяч чалавек.**

*БЕЛАРУСЬ -- ЗША*

### ЛЬГОТНЫ РЭЖЫМ

**Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан падпісаў рашэнне аб прадастаўленні Беларусі асаблівага льготнага рэжыму -- "абагуленай сістэмы прэферэнса" (ГСП).**

**У 1992 годзе, як вядома, нашай дзяржаве першай сярод краін Садружнасці Злучанымі Штатамі быў прадастаўлены рэжым найбольшага спрыяння.**

**Адпаведна сістэме прэферэнса, якая распаўсюджваецца на 134 краіны, Беларусь атрымае магчымасць бяспошлінна экспартаваць у ЗША звыш 4 200 назваў тавараў хімічнай, харчовай, лёгкай, машынабудаўнічай, дрэваперапрацоўчай прамысловасці.**

*КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА*

### ХЦІВАСЦЬ

**Сын былога першага сакратара Мінскага гаркома КПБ Іван Місуна -- малады, але энергічны прадпрымальнік, намеснік генеральнага дырэктара Цэнтра знешнеэканамічных праблем і віцэ-прэзідэнт акцыянернага таварыства "Трансэкспарт" асуджаны на 6 гадоў пазбаўлення волі за ... рэкет. Злачынца збег з залы суда.**

***

**Дзесяткі кіламетраў радыёліній па-варварску выразаны ў Пухавіцкім раёне. Так, 22 кіламетры радыёліній зніклі на шляху ад Мар'інай Горкі да вёскі Талька, 30 кіламетраў знішчана на ўчастку ад райцэнтра да вёскі Селецк. Калгасы і саўгасы надоўга засталіся без радыё. Каля 100 мільёнаў рублёў -- такі ўрон нанесены дзяржаве.**

***

**У белы дзень невядомыя каля вёскі Гарадзішча пад Мінскам раскапалі траншэю і забралі 13 метраў меднага кабелю тэлефоннай сувязі. Як выявіла міліцыя, злачынцамі аказаліся 13-гадовыя вучні каралёўстанскай СШ Андрэй С. і Аляксандр К.**

*У ШКОЛАХ ПАЧАЛІСЯ ЗАНЯТКІ*





**Так ужо традыцыйна склалася, што ўсхваляваныя бацькі ў апошні дзень перад пачаткам вучэбнага года набываюць неабходныя для школьніка рэчы. Глядзіш на бясконцыя чэргі і ажыятаж ля прылаўкаў, і складваецца ўражанне, быццам мамы, таты і бабулі толькі зараз даведаліся, што іх дзеці заўтра пойдуць у школу. Але ж у гэтым годзе да звычайных бацькоўскіх хваляванняў далучыліся новыя, якія значна ўскладнілі жыццё. Самы сціплы набор неабходных для вучняў прылад здольны надоўга падарваць бюджэт сярэднестатыстычнай сям'і, бо, напрыклад, звычайны агульны сшытак каштуе 1 690 рублёў, просты аловак -- 247, добры набор каляровых алоўкаў можа "пацягнуць" на 5--6 тысяч рублёў. А вось звычайная сумка ці ранец, без чаго не абысціся, каштуе мінімум 15 000. Не забудзьцеся і пра нятанную школьную форму, якая сёлета зноў стала абавязковай. Ну і на завяршэнне дазвольце нагадаць суму кампенсацыі, якой дзяржава падтрымала бацькоў у гэты цяжкі для іх час: 5 000 рублёў. Неяк нават не хочацца і падлічваць, на што можа хапіць гэтых "шалёных грошай".**

**Аднак часам даводзіцца чуць і прыемныя навіны, звязаныя з пачаткам навучальнага года. Так, у адным з густанаселеных раёнаў Віцебска Поўдзень-5 да пачатку навучальнага года, нягледзячы на ўсе цяжкасці, здадзены ў эксплуатацыю новы вучэбна-выхаваўчы комплекс. У сучасным корпусе, узведзеным побач з СШ N 40, размесціцца 25 кабінетаў, а таксама дзве спартыўныя залы і манеж, камп'ютэрны клас для малодшых школьнікаў і гаспадарча-цяплічны комплекс. З уводам новага корпуса дзятва з шасцідзёнкі пяройдзе на пяцідзённы рэжым вучобы, пачне функцыянаваць цэнтр мастацка-эстэтычнага выхавання.**

**НА ЗДЫМКАХ: тут размясціўся вучэбна-выхаваўчы комплекс мікрараёна Поўдзень-5; першакласніца Каця ВЫЛАКОВІЧ.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

*МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ*



**"Новыя твары" -- так называўся міжнародны фестываль моладзі, які праходзіў у многіх гарадах Рэспублікі Беларусь.**

**500 прадстаўнікоў з розных краін свету абмяркоўвалі злабадзённыя праблемы, што стаяць перад маладымі людзьмі планеты. У праграме фестывалю былі і гарачыя спрэчкі на палітычныя тэмы, і дыспуты аб развіцці культуры, і абмен планамі на будучыню, сустрэчы з вядомымі людзьмі нашай краіны, многае іншае.**

**Дэлегаты фестывалю, які нарадзіўся на беларускай зямлі, выказалі пажаданне і надалей праводзіць такі патрэбны і карысны дыспут моладзі з усяго свету.**

**У час фестывалю адбылося карнавальнае шэсце па вуліцах Мінска.**

**НА ЗДЫМКУ: адна з удзельніц карнавалу.**

*"ПРАВЫ РЭВАНШ"*

### РЭЙД НА ГАДУЦІШКІ

**Беларуская нацыяналістычная арганізацыя "Правы рэванш" правяла рэйд на беларуска-літоўскую мяжу. Мэта -- акцыя пратэсту на станцыі Гадуцішкі -- аказалася неажыццёўленай "з-за немагчымасці пранікнення на аб'ект", як паведаміў карэспандэнту БелаПАНа адзін з кіраўнікоў "Правага рэваншу" Славамір Адамовіч. Аднак, па яго словах, удалося сфатаграфаваць новы будынак мытні і некаторыя іншыя аб'екты. На яго думку, "мясцовае насельніцтва вельмі назадаволена няздольнасцю беларускіх улад вырашыць пытанне з чыгуначнай станцыяй Гадуцішкі".**

*НА ЭСТРАДНЫМ НЕБАСХІЛЕ*

### ЗОРКІ АДПРАВІЛІСЯ Ў ТУРНЭ

**У Каўнасе 26--27 жніўня адбыўся міжнародны фестываль поп-музыкі.**

**Беларускую эстраду на фестывалі прадстаўлялі нашы папулярныя спевакі Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч. Яны выканалі вядомыя ўжо шлягеры "Цыганка", "Восень у Версалі", "Гісторыя аднаго кахання" і новыя песні.**

**Потым беларускія зоркі адправіліся ў вялікае турнэ па Італіі, Монтэ-Карла, на Мальту. Я. Паплаўская і А. Ціхановіч наведаюць таксама Турцыю, дзе прымуць удзел у перадачы папулярнага вядучага Барыша Манча "TV ад 7 да 77". А ў кастрычніку па запрашэнню Тэатра песні Паплаўскай і Ціхановіча Б. Манча наведае Беларусь з візітам у адказ.**

*ПА СПРАВЯДЛІВАСЦІ*

### УЗНАГАРОДА ЗА СКАРБ

**Упершыню ў адпаведнасці з Законам аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны ў незалежнай Беларусі атрымаў узнагароджанне — 25 працэнтаў поўнага кошту (а не кошту каштоўнага металу, як было раней) за знойдзены і перададзены дзяржаве скарб рымскіх сярэбраных манет I--II стагоддзяў н.э. трактарыст Бярозаўскага раёна Н. Чакае ацэнкі і скарб манет XVI--XVII стагоддзяў, знойдзены не так даўно ў Лепельскім раёне.**

*ФЕНОМЕН*

### ВЁСКА ДОЎГАЖЫХАРОЎ

**Вёска Шылін Бярозаўскага раёна вядомая сваімі доўгажыхарамі: Алене Шэшка -- 104 гады, Ганне Барнюк -- 97 гадоў, Наталлі Шэшка -- 101, Варвары Шэшка -- 105, Ульяне Кендэ -- 101, Марфе Шупенька -- 104, Таццяне Гошка -- 101.**

**У вёсцы шмат жанчын, якім за 80--90 гадоў. Многія добра ўпраўляюцца па гаспадарцы. А самаму старэйшаму мужчыну ў вёсцы, Купрыяну Юрковічу, усяго 93 гады.**

## ЧАКАЮ АФІЦЫЙНАГА АДКАЗУ

# ЦІ ПРАЦЯГНЕЦЦА ІНФАРМАЦЫЙНЫ ГОЛАД?

Ёсць такая прымаўка: "Хто стукае, таму і адчыняюць". Скажу шчыра, што я ўжо пачынаю сумнявацца ў дакладнасці яе сэнсу. Апошнія два гады я толькі тым і займаюся, што "стукаю" ў розныя інстанцыі, каб нейкім чынам атрымаць магчымасць чытаць беларускамоўную прэсу. "Дастукацца" ўдалося толькі да рэдакцыі газеты "Голас Радзімы": вось ужо другі год мне рэгулярна дасылаюць 3 экземпляры газеты. Праўда, апошнім часам "Голас Радзімы" перастаў паступаць, не ведаю, з якое прычыны: апошні нумар газеты, які я атрымаў, -- гэта N 23 за 9 чэрвеня... Будзе вельмі шкада, калі ён так больш і не прыйдзе да мяне: апошнія чатыры гады "Голас Радзімы" стаў вельмі цікавай і змястоўнай газетай, адчуваецца прафесіяналізм калектыву, яго патрыятызм і адказнасць перад сваімі чытачамі, большасць з якіх гэта мы -- беларусы далёкага і блізкага замежжа...

Раз у два месяцы прыходзіць да мяне і "падарунак" ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына": у кожнай бандэрольцы некалькі пасобнікаў газеты "Рэспубліка", па 1 экземпляру газет "ЛіМ", "Свабода", "Звязда", "Народная газета", а калі-нікалі разам з імі дашлюць па экземпляру часопісаў "Вожык", "Вясёлка" ці "Маладосць". Безумоўна, "даронаму каню ў рот не заглядваюць", але ж пагадзіцеся, што чытаць навіны месячнай даўнасці, якая карысць. Барані Божа, я не раблю аніякіх закідаў у бок ЗБС "Бацькаўшчына" -- у невялічкага штата хапае розных неадкладных спраў, а па-другое, у ЗБС "Бацькаўшчына" замала грошай, каб задаволіць усе патрэбы беларусаў далёкага і блізкага замежжа. Дык што ж рабіць у гэтай зусім бязрадаснай сітуацыі? На мой погляд, вырашыць пытанне можна было б на дзяржаўным узроўні. Асабліва ў такіх краінах, як Украіна, Літва, Латвія, Эстонія, Малдова і Казахстан, дзе жыве шмат этнічных беларусаў. Справа ў тым, што і ў Беларусі жыве вялікая колькасць этнічных украінцаў, літоўцаў, малдаван і г.д. Ведаю, што і ім у Беларусі немагчыма падпісацца сёння на выданні сваіх незалежных краін. Утварылася, прычым штучна, інфармацыйная мяжа. На гэтым бязрадасным фоне толькі расіяне не пакрыўджаны ні на Украіне, ні ў Беларусі, бо шэраг расійскіх газет і часопісаў увайшлі ў падпісныя каталогі абедзвюх краін, а падпісацца на іх можна за ўласныя грошы, гэта значыцца за беларускія рублі і ўкраінскія карбаванцы. Ды і беларусы, якія жывуць у Расіі, таксама маюць магчымасць падпісацца на шэраг газет і часопісаў Беларусі, якія ўвайшлі ў расійскі каталог падпісных выданняў. Зайздрошчу ім!

А мы, беларусы Украіны, у чым правініліся, што нас пазбавілі магчымасці чытаць газеты і часопісы на роднай беларускай мове?! Я ўжо не першы раз пішу аб гэтай праблеме, створанай штучна бюракратамі з Міністэрства сувязі новых краін, якія ўтварыліся на "руінах" СССР. Неўзабаве пачнецца кампанія падпіскі на газеты і часопісы на новы 1995 год. Неабходна двухбаковая дамова паміж Міністэрствамі сувязі Беларусі і Украіны аб падпісцы на газеты і часопісы.

Па гэтай дамове мы на Украіне маглі б за ўкраінскія карбаванцы падпісацца на беларускія газеты і часопісы, а ўкраінцы Беларусі атрымалі б магчымасць вольнай падпіскі за беларускія рублі на ўкраінскія газеты і часопісы. Няўжо гэта так цяжка зрабіць?! На мой погляд, патрэбна зацікаўленасць у практычнай дапамозе, а не ў той балбатні аб "клопатах пра беларусаў у замежжы", якую мы чуем з вуснаў шматлікіх чыноўнікаў Беларусі. Цацанкі-абяцанкі ўжо набілі аскоміну, і калі мне чарговы раз давялося па радыё пачуць, што Прэзідэнт Беларусі спадар Аляксандр Лукашэнка абяцаў "эканамічную падтрымку беларускай дыяспары", я толькі пацiснуў плячыма, бо не зразумеў сэнсу сказанага першай асобай дзяржавы. Я толькі тады зразумею падтрымку з Бацькаўшчыны, калі прыйду ў гарадское аддзяленне "Укрпошты" і змагу спакойна падпісацца на выданні Беларусі, а менавіта на газеты "Звязда", "Свабода", "Культура", "Літаратура і мастацтва", "Настаўніцкая газета", "Наша слова", "Раніца", "Чырвоная змена", "Голас Радзімы", на часопісы "Беларусь", "Беларуская мінуўшчына", "Беларускі гістарычны часопіс", "Роднае слова", "Спадчына", "Полымя", "Бярозка", "Вожык", "Беларуская думка"... Калі я змагу аформіць падпіску на 1995 год на вышэйпералічаныя газеты і часопісы, дарэчы, за свае ўласныя грошы, вось тады я адчую нейкі клопат Бацькаўшчыны пра мяне, беларуса, які звыш 20 гадоў жыве за межамі Беларусі, але ні на хвіліну не здрадзіў сваёй роднай мове, культуры і гісторыі...

Ці працягнецца інфармацыйны голад і ў 1995 годзе? Хто з чыноўнікаў Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь мне адкажа, ці будзе ў рэшце рэшт дамова з украінскімі калегамі-сувязістамі аб адкрыцці падпіскі на беларускія выданні на Украіне і на ўкраінскія ў Беларусі? Трэба ўлічыць, што такога адказу чакаю не я адзін, а тысячы беларусаў, якія жывуць на Украіне. Ці будзе гэты адказ станоўчым? Ці не прыйдзецца нам яшчэ з гэтай праблемай звяртацца да спадара Лукашэнкі, каб ён пасадзейнічаў нам у развязанні яе?

**Пятрусь КАПЧЫК.**

Украіна.

# ДАПАМАЖЫЦЕ НА ХРАМ!

Як сведчаць гістарычныя дакументы, раней на Беларусі будаваўся адзін храм на тысячу жыхароў. Менавіта тады, калі насельніцтва невялікай правінцыяльнай Вілейкі не перавышала тысячу, узняўся на ўездзе ў горад велічны храм у гонар Вялікапакутніка Георгія Перамоганосца. Сем яго купалоў ярка гарэлі на сонцы, званы клікалі падарожных і жыхароў горада ўзнесці Госпаду хвалу і малітву за поспех справы.

Вялікія гістарычныя падзеі пранесліся над царквой, закрануўшы яе сваімі віхурамі. Адным часам была яна перададзена уніятам. І нарэшце бальшавіцкая ўлада знішчыла храм, пабудаваўшы на яго падмурку магазін.

У пачатку стагоддзя, калі насельніцтва Вілейкі павялічылася, насупраць старой царквы пабудавалі другую -- невялікую, лёгкую, у гонар святой Марыі Егіпецкай. Так і застаўся ў нашым горадзе зараз адзін гэты праваслаўны храм. У дні вялікіх святаў царква не можа змясціць усіх жадаючых, бо зараз Вілейка мае больш трыццаці тысяч жыхароў. У асноўным гэта праваслаўныя хрысціяне.

Але знайшліся людзі, якія ўзяліся аднавіць былы храм. Ды што там аднавіць -- старая Свята-Георгіеўская царква зруйнавана зусім. Таму для будаўніцтва новага храма адведзена пляцоўка на ўскрайку горада. Нядаўна Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт асвяціў месца пад будоўлю. Усю арганізацыйную работу ўзяў на сябе прыходскі савет зарэгістраванай нядаўна абшчыны. Узначаліў яго дырэктар малога прадпрыемства "Эльбрус" Ігар Шалуха, якому, уласна, і належыць ідэя аднаўлення царквы. Звязацца з ім у горадзе Вілейцы можна па тэлефонах 5-61-27; 5-30-35.

Работу над праектам храмавага комплексу ўзначаліў Мікалай Лук'янчык, веруючы чалавек і таленавіты дойлід. Комплекс будзе складацца з асноўнага храма, асобна званіцы, брамы і доміка для хрышчэння, пабудаванага па тыпу невялікай царквы ў гонар Новапакутніка Ціхана. Пакуль будзе ўзводзіцца асноўны храм, у доміку будуць праходзіць службы.

Тэмпы будаўніцтва новага храма ў Вілейцы залежаць ад яго фінансавання. Успомніце: заўсёды цэрквы будаваліся ўсім мірам. **Мы звяртаемся да нашых суайчыннікаў за мяжой: дапамажыце, чым можаце, каб у Вілейцы адчыніў дзверы новы храм. Грошы можна пераводзіць на банк атрымальніка: упраўленне Белбізнесбанка па Мінскай вобласці, разліковы рахунак 37067111 0168/001, прызначэнне плацяжу -- для Свята-Георгіеўскай царквы на рахунак N 61070111.0001/001 у аддзяленні Белбізнесбанка ў Вілейцы.**

Для аднаўлення храмаў дзяржава вяртае з музеяў і запаснікаў іконы, іншыя царкоўныя прыналежнасці. Аднак мы не адмовімся, калі хто-небудзь з нашых суайчыннікаў захоча падараваць штосьці царкве.

Імёны ахвярадаўцаў на храм святары заўсёды славяць у сваіх службах. Няхай жа на вашай радзіме блаславёным будзе ваша імя і хай дапаможа вам Бог!

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

# ДЗЕЛЯ АДНАЎЛЕННЯ ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Падзеі, звязаныя з паўстаннем Т. Касцюшкі, прадстаўніка старадаўняга беларускага шляхецкага роду на Беларусі, ахопліваюць час з красавіка да канца верасня 1794 года.

Зямля Беларусі была месцам барацьбы паўстанцаў супраць расійскай агрэсіі. Але як гэта ні сумна, да нашага часу няма помнікаў барацьбітам за незалежнасць. Затое ў Кобрыне ёсць музей, які ўшаноўвае памяць заваёўніка і душыцеля паўстання А.Т. Касцюшкі -- А. Суворава.

24 жніўня 1994 года ў вёсцы Кунцаўшчына Ждановіцкага сельсавета Мінскага раёна адбыўся мітынг, арганізаваны Нацыянальным камітэтам па святкаванню 200-х угодкаў паўстання Тадэвуша Касцюшкі. На мітынгу быў адкрыты помнік удзельнікам паўстання, створаны Святаславам Бандалевічам і Хведарам Ладуцькам па эскізу Міколы Купавы. На помніку чытаем: "Ваярам Стахвана Грабоўскага, паўстанцам 1794 года". Менавіта ў гэтым месцы 200 гадоў назад, 23--24 жніўня 1794 года, адбылася бітва паміж паўстанцамі пад кіраўніцтвам Стахвана Грабоўскага і расійскімі войскамі. Помнік асвяцілі настаяцель Івянецкай царквы айцец Віктар і айцец Ян Матусевіч. Была адслужана паніхіда па ўсіх змагарах за незалежнасць Беларусі, прачытана малітва за беларускі народ. Да помніка леглі вянок і кветкі. На адкрыцці помніка прысутнічалі прадстаўнікі навуковай інтэлігенцыі, мясцовыя жыхары, сабралася многа дзяцей. Ва ўсім адчувалася святочная атмасфера.



Выступаючы на мітынгу, старшыня Нацыянальнага камітэта па святкаванню 200-х угодкаў паўстання Мікола Купава адзначыў, што паўстанне 1794 года з'яўляецца яркай старонкай нашай гісторыі. Ён выказаў падзяку мясцоваму Ждановіцкаму сельсавету за дазвол на ўстанаўленне помніка. Аўтар шэрагу публікцый, прысвечаных паўстанню 1794 года, кандыдат гістарычных навук Уладзімір Емяльянчык падрабязна расказаў аб падзеях, якія разгортваліся 200 гадоў назад.

Прадстаўнік Беларускага згуртавання вайскоўцаў Алесь Статкевч адзначыў, што ўпершыню за многія гады мы святкуем урачыста гэтую гістарычную падзею. Доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч падкрэсліў вялікае значэнне паўстання ў нашай гісторыі. Старшыня Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс адзначыў, што той факт, што помнік асвяцілі прадстаўнікі розных канфесій -- праваслаўнай і грэка-каталіцкай царквы, -- мае глыбокі сэнс і вялікае значэнне. Справа ў тым, што Касцюшка быў хрышчоны двойчы. Ва уніяцкай царкве -- імем Андрэй і ў каталіцкім касцёле -- імем Тадэвуш.

Зянон Пазьняк, выступаючы, падкрэсліў, што без гістарычнай памяці няма нацыі. Наша задача сёння -- адрадзіць гістарычную памяць. І адкрыццё помніка паўстанцам 1794 года -- адзін з крокаў на шляху вырашэння гэтай задачы.

У завяршэнне мітынгу праспяваў свае песні беларускі бард Кастусь Герашчанка.

**Валянцін МАЗЕЦ.**
**Фота А. РУЖАЧКІ.**



# КАБ ЖЫЛА НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

### ГУТАРКА СА СТАРШЫНЁЙ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" Ганнай СУРМАЧ

*-- Ганна Іванаўна, вы ўжо больш года ўзначальваеце "Бацькаўшчыну". Дзе пабывалі за гэты час, з кім сустракаліся?*

-- За год многа давялося папрацаваць і ў Мінску, ствараючы сядзібу "Бацькаўшчыны", і выязджаючы за межы Беларусі, дзе было многа сустрэч з нашымі землякамі.

*-- І дзе вы ўжо пабывалі?*

-- Работа старшыні найперш у тым і заключаецца, каб мець кантакты з замежнымі беларусамі, бачыць канкрэтную сітуацыю. Таму ўвесь час езджу. Аб'ехала блізкае замежжа -- Масква, Санкт-Пецярбург, іншыя гарады Расіі, Украіна, Прыбалтыка, Беласток. Вясной пабывала ў Англіі і Нямеччыне.

*-- Якія вашы ўражанні ад сустрэч з замежнымі беларусамі?*

-- Ім неабходна наша падтрымка, дапамога. Пасля распаду Савецкага Саюза беларусы апынуліся ва ўмовах ізаляцыі. Раней існаваў больш інтэнсіўны культурны абмен, прыязджалі беларускія тэатры, музычныя калектывы, працей было падпісацца на беларускую прэсу, не было праблем з паездкай на Бацькаўшчыну. Людзі, карацей кажучы, апынуліся ў вакууме. У кожнай краіне карэнная нацыя захоўвае свае інтарэсы, іншыя нацыі, каб выжыць, аб'ядноўваюцца. Пачалі аб'ядноўвацца і беларусы. Кансалідацыя выратоўвае людзей у самых цяжкіх жыццёвых умовах, выратоўвае ад маральнага стрэсу, дае падтрымку ў чыста жыццёвых абставінах. Маем вопыт беларускай паваеннай эміграцыі, якая, апынуўшыся пасля вайны ў Нямеччыне, арганізоўвала свае школы, гімназію імя Янкі Купалы, гурткі мастацкай самадзейнасці. Беларусы далёкага замежжа былі больш арганізаванымі, чым тыя, хто жыў у розных рэспубліках СССР, але, на жаль, і яны трацяць сваю актыўнасць.

*-- Мусіць узрост іх цяпер такі, што нельга разлічваць на вялікую актыўнасць? Яны сваё зрабілі, а ад дзяцей цяжка чакаць значнай працы?*

-- Безумоўна, але менавіта ў гэтым накірунку і ідзе наша зацікаўленне. Людзі шчыра працавалі, уклалі грошы, набылі маёмасць. Каму ўсё гэта застанецца? А самае галоўнае, ці будзе адчувацца прысутнасць беларусаў у гэтых краінах. Нам бы хацелася, каб адчувалася, таму мы вітаем кожнае пачынанне.

*-- З кім вы сустракаліся ў Нямеччыне?*

-- З Барысам Кітом, Юрыем Попкам. На жаль, у Нямеччыне, больш чым дзе, беларусы раз'яднаны. Там няма згуртаванняў, якія аб'ядноўвалі б нашых землякоў. У мяне ёсць спадзяванні на Ляймен, дзе Юрыем Попкам створаны Беларускі музей. У нас там адбыўся вечар, на якім прысутнічаў пасол Беларусі ў Нямеччыне Пётра Садоўскі, спяваў хор (рэлігійныя спевы) з Мінска з інстытута замежных моў, прыйшло многа немцаў. Юрый Попка змог давесці да кіраўнікоў горада, што Беларусь -- дзяржава, вартая павагі, і мы адчувалі да сябе спрыяльныя адносіны.

*-- Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра музей у Ляймене.*

-- Музей створаны ў звычайнай кватэры, дзе сабраны матэрыялы пра беларускую эміграцыю, пра беларускае замежжа, наогул пра Беларусь. Спачатку была думка перадаць усё гэта сюды, але, мяркую, добра зрабілі, што не перадалі, бо яно больш патрэбна там. Сярод тых экспанатаў няма асаблівых каштоўнасцей. Вельмі мала арыгіналаў, многае з сабранага мы маем у сваіх архівах. А ў Ляйменскім музеі такія матэрыялы ўяўляюць каштоўнасць, бо пра Беларусь за мяжой надзвычай мала інфармацыі, а мы нічога не робім, каб яе было болей. Вельмі спадзяюся, што, калі ўдасца ажывіць музей у Ляймене, то можа вакол яго згуртуюцца беларусы, якія жывуць у Нямеччыне.

*-- У вас, Ганна Іванаўна, паездка была Англія -- Германія?*

-- Англія была раней. Лічу, што гэта краіна, да якой нам варта было б ставіцца больш уважліва, чым рабілася да гэтага часу з боку "Бацькаўшчыны". Мы ж мелі пра беларусаў там вельмі цьмяныя ўяўленні.

*-- Адам Мальдзіс пісаў пра беларусаў за Ла-Маншам. У "Голасе Радзімы" збіраўся нават кніжку выдаць пра Скарынаўскую бібліятэку ў Лондане і пра людзей, якія там працуюць, але яшчэ не прыйшоў тады час такіх адкрыццяў, і нататкі Адама Мальдзіса былі надрукаваны толькі ў газеце, кніжку забаранілі.*

-- Але Адаму Мальдзісу не ўдалося тады паездзіць па Англіі. А актыўным жыццём, акрамя Лондана, беларусы жылі і ў Манчэстэры, і ў Брэдфардзе, і ў іншых месцах. Сёння найбольш актыўная арганізацыя -- Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі, створанае яшчэ ў 1947 годзе Жук-Грышкевічам у Лондане. Цяперашні старшыня згуртавання -- Ян Міхалюк. Сям'я Міхалюкоў проста цудоўная, адданая беларускай справе. Кожны год рыхтаваліся, спадзяваліся прыехаць у Беларусь. Ян Міхалюк меў запрашэнне на З'езд беларусаў свету, але напярэдадні падзеі трапіў у шпіталь, дзе яму аднялі абедзве нагі. У Міхалюкоў трое сыноў, і ўсе яны не адышлі ад бацькоўскай справы. Хацелася б мне згадаць і пра Хведара Лемяшонка. Такі, ведаеце, беларускі мужычок, нават цяжка ўявіць, што ён столькі гадоў пражыў у Англіі. І дачка яго Ганна, хоць нарадзілася і вырасла за мяжой, цудоўна адчувае беларускую мову, ведае нашы звычаі, такая тыповая беларуская жанчына, маці, гаспадыня. Муж Ганны Янка Ясвіловіч і Хведар Лемяшонак утрымліваюць у Брэдфардзе трохпавярховы будынак, дзе раней віравала беларускае жыццё, а зараз, на жаль, аціхае. Хочацца нешта зрабіць, каб гэты дом ажыў.

У Лондане, канешне, вялікі асяродак беларусаў сканцэнтраваўся вакол Скарынаўскай бібліятэкі, але ёсць і іншыя згуртаванні, у асноўным вакол праваслаўнай царквы. На мяне вялікае ўражанне зрабіла сустрэча з Міколам Залогам, які таксама большую частку жыцця пражыў за мяжой, але застаўся шчырым беларусам. Лашук, Навумовіч -- усё гэта зубры беларускай справы, якія змаглі захаваць нацыянальную ідэю. І яна расла, жыла сярод людзей, набірала сілу.

*-- У Германіі вы сустракаліся з беларускім пасплом, а ці былі ў вас падобныя кантакты ў Англіі?*

-- Сустракаліся мы з нашым пасплом у Вялікабрытаніі Сянько, які потым стаў міністрам замежных спраў. Вельмі добрае ўражанне зрабіў: ён прыроджаны дыпламат. Уладзімір Сянько адразу ўстанавіў кантакты з беларускай дыяспарай. Дом для нашай амбасады даў беларус Ян Данілюк. І над ёю лунае беларускі сцяг. Мы з Міхалюком даволі доўга шукалі сваё пасольства ў Лондане і знайшлі менавіта па гэтым сцягу. Ведаеце, калі ўбачылі яго, сэрца замерла.

Якраз на той час прыпала ўручэнне Сянько вярыцельных грамат англійскай каралеве. Мне, на жаль, трэба было ехаць далей, а беларусы ў Лондане рыхтаваліся выйсці са сцягамі, былі запрошаны на прыём. У той жа дзень па англійскім тэлебачанні ішла перадача пра тое, як у Мінску стваралася англійскае прадстаўніцтва. Першы наш пасол у Англіі -- гэта было для беларусаў вялікім святам. Падзея сведчыла, што і пра нас ведаюць у свеце.

**Гутарыла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

## *ГОСЦЬ РЭДАКЦЫІ*

# НЕ РАСЦЯГНУЛІ Б НАС НА ЎСХОД І ЗАХАД

ПРАЖЫЎШЫ большую частку жыцця па-за межамі Беларусі, Эмігідзіюш Рыжы нават і не спадзяваўся, што прыйдзе час і з'явіцца магчымасць зноў "дакрануцца да роднай зямелькі". Нарадзіўся ён на Глыбоччыне, але пасля арышту маці, якую потым вывезлі ў Малдову, мусіў у 1946 годзе збегчы ў Польшчу. Там ён пражыў трыццаць гадоў. У 1976 годзе паехаў у Амерыку, да брата Уладзіслава Рыжы-Рыжскага -- заснавальніка Сусветнага амерыканскага патрыярхату, Беларускай народнай царквы ў Амерыцы. Там Эмігідзіюш Рыжы пазнаёміўся з царкоўнай справай, паступіў і скончыў семінарыю ў Нью-Йорку, быў пасвечаны ў сан архіепіскапа, а пасля смерці Патрыярха Уладзіслава Рыжы-Рыжскага ў 1978 годзе стаў ягоным пераемнікам, маючы тытул Апостальскага адміністратара Сусветнага амерыканскага патрыярхату. У чарговы свой прыезд на Бацькаўшчыну завітаў уладыка Эмігідзіюш Рыжы ў рэдакцыю нашай газеты, каб падзяліцца думкамі аб мэтазгоднасці і неабходнасці заснавання аўтакефальнай царквы ў Беларусі.

**-- Уладыка Эмігідзіюш, вядома, што ў Беларусі ніколі не было сутычак на канфесійнай глебе. Тут добра ўжываліся католікі, праваслаўныя, пратэстанты, іудзеі, мусульмане. Вы прыехалі да нас з мэтай заснаваць Беларускую народную царкву. Якая ў гэтым неабходнасць?**

-- Беларуская народная царква якраз і накіравана на супрацоўніцтва з усімі веравызнаннямі і будзе экуменічнай аўтакефальнай. Да яе могуць далучацца прадстаўнікі ўсіх канфесій, што толькі паспрыяе аб'яднанню грамадскай супольнасці. Набажэнствы будуць весціся на беларускай мове, але можна дазволіць і на мове іншай нацыі. Нашай Бацькаўшчыне, цяпер вольнай, вельмі патрэбна сапраўды незалежная царква.

**-- Патлумачце, калі ласка, што азначае "незалежная" царква?**

-- Мы павінны займець царкву, якая ў юрысдыкцыі не будзе падлягаць ні пад Папу Рымскага, ні пад Маскоўскі Патрыярхат і якая будзе служыць толькі Народу, Богу і Бацькаўшчыне, усё роўна, ці то ў абрадзе ўсходнім, ці заходнім. Мы мусім адарвацца ад Масквы і Рыма ў царкоўнай справе. Пакуль у краіне няма нацыянальнай царквы -- няма народа, няма дзяржавы, няма незалежнасці. Увесь свет моліцца на сваёй роднай мове. Чаму беларусы не могуць? Лучнасць з Богам будзе тым шырэйшай і глыбейшай, чым больш прыхаджанін будзе разумець у богаслужбе. Вы добра ведаеце, што мы маем сёння ў Беларусі. Толькі адзінкі ладзяць набажэнствы па-беларуску. Усе астатнія -- па-руску. Што тычыцца католікоў -- там гучыць выключна польская мова. У Гародні набажэнства на роднай мове -- раз у тыдзень! У маёй парафіі, дзе ксёндз вывучыў беларускую мову і пачаў яе выкарыстоўваць, яго адразу накіравалі ў Польшчу. Дарэчы, тое ж самае назіраецца і з праваслаўнымі святарамі. Менавіта таму падкрэслю яшчэ раз: ні беларуская праваслаўная царква, падпарадкаваная Маскоўскаму Патрыярхату, ні рымска-каталіцкая, падпарадкаваная Рыму, не садзейнічаюць станаўленню беларускай дзяржавы, не можа быць ніякай гаворкі пра сапраўдную незалежнасць і самастойнасць краіны, пакуль у краіне не будзе ўсталяваны Беларускі Патрыярхат.

**-- Апошнім часам у Беларусі пачало адраджацца уніяцтва, якое існавала на гэтых тэрыторыях спрадвеку. Уніяты цвёрда стаяць на пазіцыях незалежнасці, набажэнствы ладзяцца па-беларуску. Іх падтрымлівае найбольш свядомая частка насельніцтва.**

-- Так, я ведаю. Хачу адзначыць: вельмі добра, што уніяты робяць нешта на карысць беларускасці. Тым не менш, свядомая частка беларусаў павінна ведаць, што уніяцтва -- гэта не што іншае, як рымска-каталіцкая царква, толькі ў абрадку ўсходнім, і яна знаходзіцца ў юрысдыкцыі Папы Рымскага. Рым вельмі далёка, каб жыць турботамі Беларусі. Нават каб выкарыстоўваць беларускую мову ва уніяцкай царкве, патрэбен быў дазвол папы. Усё гэта зноў толькі пацвярджае неабходнасць утварэння на Беларусі незалежнай царквы, нешта накшталт англіканскай. Свядомыя беларусы павінны гэта разумець і дапамагаць.

**-- Добра, ёсць ідэя -- стварыць Беларускую царкву. Што ж ужо зроблена для яе ўсталявання? Якія тут праблемы?**

-- Я ўжо выказваў свае думкі былому міністру замежных спраў спадару Пятру Краўчанку. Была размова ў таварыстве "Радзіма". Адгукнуўся айцец Георгій Латушка, які прыслаў свайго прадстаўніка для перамоваў. На жаль, далей слоў справы пакуль што не ідуць, хоць ніхто і не супраць.



**-- Але справа не можа рабіцца сама. Патрэбны людзі, захопленыя ідэяй, якія дамагаюцца яе ажыццяўлення.**

-- Так, у Мінску, а таксама ў іншых месцах Беларусі ў мяне ёсць прыхільнікі. Яны робяць справу: імкнуцца зарэгістраваць царкву. Але галоўнае, каб улады самі ўсвядомілі, што такая царква патрэбна, і паспрыялі яе станаўленню. І першае, што маглі б яны зрабіць у гэтым накірунку, -- дапамагчы з будынкам. Напачатку -- гэта самае складанае і самае галоўнае.

**-- А які павінен быць будынак?**

-- Гэта можа быць любы дом, любое памяшканне або, урэшце, кавалак зямлі, дзе мы маглі б пачаць будаўніцтва.

**-- А якая ў гэтай царкве будзе іерархія?**

-- Найважнейшая ўстанова -- гэта сінод і калегія епіскапаў. У прыходзе -- царкоўная рада з 3--5 чалавек, выбраных па статуце на 2--4 гады з правамі зацвярджэння і адстаўкі святара ў сваім прыходзе. Тое самае пры калегіі епіскапаў па статуце Сусветнага Патрыярхату. Але да гэтага яшчэ далёка. Скажу шчыра: нягледзячы на ўсе свае намаганні, стаўлюся да ажыццяўлення сваёй ідэі ў Беларусі вельмі песімістычна. Усё тут у вас робіцца вельмі марудна. Вось і на вашым будынку да гэтай пары шыльда, на якой прысутнічае "серп і молат". Ці вось яшчэ такі прыклад. Жадаючы дапамагчы сваёй Радзіме ў кожным накірунку сваёй магчымасці, я звярнуўся ў Беларускі медыцынскі інстытут, каб наладзіць там абучэнне амерыканскіх студэнтаў. Вядома, трэба папрацаваць, каб гэта наладзіць, ёсць пэўныя цяжкасці. Але справа вартая таго. Хіба дзяржаве не патрэбна цвёрдая валюта? Ніякага адказу я пакуль што не атрымаў. Ніхто не хоча браць на сябе адказнасць.

**-- Чым вы можаце гэта патлумачыць?**

-- Людзі ўсё яшчэ жывуць мінулым, чакаюць, што нехта прыйдзе і падорыць ім добрае жыццё. Няма пачуцця годнасці, патрэбы мець нешта сваё і сваім ганарыцца. Калі прыязджаеш у Беларусь, куды ні заходзіш, паўсюль чуеш "здрасте", ад якога робіцца дрэнна. Тым не менш, людзі свядомыя ўжо ёсць. На іх усе спадзяванні. Што ж тычыцца ўсталявання Беларускай царквы, я хацеў бы адзначыць, што калі яна паўстане, будзе пашырацца, святары будуць рабіць сваю справу, то я асабіста адыду і не буду перашкаджаць яе працы. Але спачатку трэба, каб такая царква з'явілася. І я хачу заклікаць наш народ і нашых святароў адгукнуцца. Ніколі не позна рабіць тое, што патрэбна нашай Бацькаўшчыне. Каб нас не расцягнулі на Усход і Захад, мы мусім усталяваць сваю Беларускую экуменічную аўтакефальную царкву і Беларускі Патрыярхат.

**Гутарыла Таіса БАНДАРЭНКА.**

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

145

А ў Смаленску адкрылася нават Цэнтральнае бюро Сялянскага саюза ПСР, у работу якога адразу ж пасля ссылкі ўключыліся бацька з сынам Бонч-Асмалоўскія. Для эсэраў, як і для народнікаў, шлях да сацыялізму вёў праз усерасійскае сялянскае паўстанне і сельскую абшчыну. Праўда, яны пачыналі разумець неабходнасць супрацоўніцтва сялян з рабочымі і інтэлігенцыяй, але, у адрозненне ад гоманаўцаў, ужо не ставілі так востра пытанне аб праве прыгнечаных нацый на самавызначэнне. Усё мясцовае сялянства было для эсэраў рускім.

**БЕЛАРУСКІ САЦЫЯЛІЗМ.** Дык няўжо беларускі народ быў такім ужо забітым, што не змог стварыць сваю нацыянальную партыю? Свядомых барацьбітоў не хапала. Гэта так. І рускія, і палякі імкнуліся заманіць нашых інтэлігентаў у свае партыі. Але патроху разуменне неабходнасці нацыянальнай палітычнай арганізацыі прыходзіла. Першымі крок у гэтым накірунку зрабілі члены "Польскай партыі сацыялістычнай", што дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Літвы. Іх не задавальняла імперская ідэя Вялікай Польшчы. А таму ў 1902 годзе яны выдзеліліся ў асобную "Польскую партыю сацыялістычную на Літве" (ППС на Літве) і абвясцілі сваёй мэтай барацьбу за палітычную незалежнасць краю і дасягненне сацыялістычнага ладу. Гэта была партыя беларусаў, літоўцаў, палякаў, якіх усё яшчэ яднаў агульныя культурныя і гістарычныя традыцыі былога Вялікага Княства Літоўскага.

146

Але паступова ў віленскім асяроддзі ППС на Літве, сярод рэвалюцыйнай моладзі Мінска і беларускага студэнцтва ў Пецярбургу ўзмацняюцца беларускія нацыянальныя плыні. А іх аб'яднанне і прывяло да канчатковага афармлення ў 1903 годзе Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) – першай нацыянальнай партыі беларусаў. Да ліку яе стваральнікаў і кіраўнікоў належалі Антон Луцкевіч (Антон Навіна) і яго брат Іван Луцкевіч, студэнты Пецярбургскага універсітэта, былыя гадаванцы мінскай гімназіі. Не менш важнае месца займалі ў партыі студэнт Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута Вацлаў Іваноўскі, слухачка Вышэйшых жаночых курсаў у Пецярбургу Алаіза Пашкевіч (Цётка), студэнт Рыжскага політэхнічнага інтытута Аляксандр Уласаў, беларускі пісьменнік Карусь Каганец, мінскі рабочы Віктар Зелязей, селянін з вёскі Блонь Ігуменскага павета Мікалай Цеханавецкі, а таксама віленскі гімназіст Алесь Бурбіс.

Многія з іх знаходзіліся пад уплывам моднага тады марксізму. Толькі стварыць беларускую рабочую партыю ніяк не выпадала. Сялянская нацыя магла займаць у адпаведнасці з тагачаснымі палітычнымі арыенцірамі толькі партыю сялянскага сацыялізму. У той жа час гэта была і партыя нацыянальнага сацыялізму. Яна мела сваёй мэтай адначасовае дасягненне як сацыяльнай (эканамічнай), так і нацыянальнай роўнасці для беларускага народа. На сваім першым устаноўчым з'ездзе БСГ пастанавіла дабівацца палітычнай аўтаноміі Беларусі з сеймам у Вільні і культурна-нацыянальнай

147

аўтаноміі для этнічных груп краю. Покліч гоманаўцаў быў пачутым.

**ПАЧАТАК ШМАТПАРТЫЙНАЙ АГІТАЦЫІ.** Палітычнае афармленне рэвалюцыйных сіл на Беларусі завяршылася ў 1903 годзе. З гэтага часу і распачалася іх шырокая практычная дзейнасць сярод рабочых і сялян. Партыйцы пераходзілі ад тэарэтычнай працы ў сваіх гуртках і арганізацыях да агітацыі ў гушчы народа супраць расійскага самаўладдзя. Асноўнай формай такой агітацыі стала друкаванае слова. Менавіта тады ўсемагчымымі ўлёткамі і брашурамі сталі поўніцца беларускія гарады і вёскі. А іх жыхарам прыходзілася толькі вырашаць -- прачытаць гэтыя паперкі, пусціць на самакруткі ці аднесці ўрадніку. Рэвалюцыйная літаратура была пераважна рускамоўнай, і толькі ППС на Літве ды БСГ звярталіся да сялян па-беларуску і гэтым працягвалі традыцыю "Мужыцкай праўды" Кастуся Каліноўскага.

**ПЕРАРАСТАННЕ ЭКАНАМІЧНАГА КРЫЗІСУ Ў ПАЛІТЫЧНЫ.** Партыйная агітацыя спрыяла росту незадаволенасці як сярод гараджан, так і сярод вяскоўцаў. Але асноўнай крыніцай гэтага быў эканамічны крызіс, што выбухнуў у пачатку XX стагоддзя. Ён прывёў да беспрацоўя і рэзкага зніжэння матэрыяльнага дабрабыту людзей. Сацыяльна-палітычная напружанасць у краі яшчэ больш павялічылася, калі ў 1904 годзе пачалася руска-японская вайна, якая зачыніла для прамысловых прадпрыемстваў Беларусі сібірскі рынак збыту і выклікала мабілізацыю працоўных на фронт.

Сярод рабочых Беларусі ў першую чаргу спе-

148

ла разуменне, што палепшыць сваё становішча немагчыма без знішчэння самадзяржаўя. У пачатку XX стагоддзя яны перайшлі да палітычнай барацьбы ў форме стачак пратэсту, мітынгаў, дэманстрацый. Палітычныя мерапрыемствы збіралі большую колькасць працаўнікоў, чым эканамічныя стачкі. У нябачную раней дэманстрацыю незадаволенасці рабочых ператварыліся святкаванні 1 Мая. Антыўрадавымі выступленнямі суправаджаліся хаўтуры рабочых -- удзельнікаў рэвалюцыйнай барацьбы, спробы вызвалення арыштаваных таварышаў.

Ва ўмовах чакання ў краіне перамен адбываліся зрухі і ў сялянскім руху. Вяскоўцы загаварылі аб палітыцы, часам удзельнічалі ў сходах рабочых. Восенню 1903 года пад уплывам кафельшчыкаў г. Копысі ў маёнтку Смятанка прайшла адна з першых на Беларусі сельскагаспадарчая стачка. Аднак, як і раней, галоўнай для мясцовага сялянства заставалася барацьба за зямлю. У 1901 годзе пачасціліся сутычкі з вайсковымі камандамі пры размежаванні з панскімі ўладаннямі. У 40-ю гадавіну адмены прыгону сяляне чакалі новых царскіх міласцяў, а таму ўпарта трымаліся за спрэчныя землі. Чуткі аб хуткім надзяленні дадатковымі землямі не заціхалі і надалей.

Большасць беларускага сялянства Беларусі жыла надзеямі на цара, большасць мясцовых гараджан звязвала сваю будучыню з адзінай і непадзельнай дэмакратычнай Расіяй. Нават беларускія патрыёты дабіваліся ўсяго толькі аўтаноміі. Аб разбурэнні імперыі амаль ніхто і не думаў. З такімі настроямі беларусаў і застала расійская рэвалюцыя 1905 года.

149

## 21. У АПОШНІМ БЛЯСКУ ЦАРСКАЙ ІМПЕРЫІ

Хоць сталыпінскай праграме выхаду з рэвалюцыйнага крызісу і супрацьстаяў цэлы шэраг праграм апазіцыйных партый, урад атрымаў маўклівую згоду большасці насельніцтва і небывалыя паўнамоцтвы ад цара. І гэтага аказалася дастаткова, каб кабінет П. Сталыпіна за кароткі тэрмін (1906--1911) вывеў імперыю на ўзровень стабільнага і цывілізаванага жыцця, якога яна ніколі раней не ведала. Што ж перапала ад гэтага беларускаму народу?

### 21.1. Палітычны адказ на небяспеку развалу імперыі

**ВЫНІШЧЭННЕ ПАЛІТЫЧНАЙ АПАЗІЦЫІ.** Пасlarэвалюцыйная стабілізацыя пачыналася ў Расіі з жорсткай барацьбы супраць левых партый, якія арыентаваліся на нелегальныя ці супрацьзаконныя метады барацьбы за ўладу. На Беларусі ў выніку рэпрэсій дзейнасць бальшавікоў, меншавікоў і эсэраў з 1908 года фактычна зусім прыпынілася і была ўзноўлена толькі ў 1917 годзе. Нават шэрагі бундаўцаў істотна парадзелі. Акрамя арыштаў, многія актыўныя працаўнікі змываліся шырокай эміграцыйнай хваляй яўрэйства ў Амерыку. Рэвалюцыйнасць партыі канчаткова знікла, калі стала вядома, што старэйшы член ЦК Бунда

150

Каплінскі з'яўляўся правакатарам. Бундаўцы пакідалі рэвалюцыйныя барыкады і браліся за нацыянальную справу -- развіццё яўрэйскай культуры, пашырэнне мовы, дамаганне культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Гэтакі ж паварот яшчэ ў ходзе рэвалюцыі зрабіла і другая нацыянальная партыя краю -- Беларуская Сацыялістычная Грамада. Грамадаўцы, хоць і распусцілі сваю партыю, але арганізацыйна гуртаваліся вакол газеты "Наша ніва". Рэвалюцыя прынесла першае расчараванне марксістам з яго класавай барацьбой і пралетарскім інтэрнацыяналізмам. Гэта выявілася і сярод той часткі расійскай інтэлігенцыі, што аб'ядноўвалася вакол зборніка "Вехі". Яго аўтары змаглі кінуць рэвалюцыянерам папрок, што іх шлях -- у нікуды, і звярнуцца да нацыянальных традыцый.

**РЭАКЦЫЙНЫ КУРС У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ.** Захаванне пасля 1905 года царскай улады азначала і захаванне Расійскай імперыі. Царызм і рускі імперыялізм не маглі адзін без аднаго. Яны ўзаемна падсілкоўваліся і не цярпелі ніякага сепаратызму. Таму аб надзеях на нейкае пашырэнне правоў нацый не магло быць і гаворкі. Сталыпін, які пачынаў сваю службовую кар'еру на Беларусі, узяў цвёрды курс на мацаванне вялікай Расіі. Праводзілася палітыка строгага падпарадкавання ўскраін цэнтру. Рэакцыя выкінула лозунг "Расія для рускіх".

Увосень 1913 года ўсю краіну ўскалыхнуў працэс яўрэя Бэйліса. Урад абвінаваціў яго ў рытуальным забойстве кіеўскага хлопчыка Андрэя Лушчынскага, хоць гэта была справа рук

151

крымінальнікаў. Беларускія яўрэі балюча перажывалі гэты здзек: у дзень працэсу аб'явілі агульны пост і забастоўку пратэсту. Беларуская вёска аднеслася да злоснага абвінавачвання яўрэйства вельмі спакойна. У рэшце рэшт і працэс праваліўся. Суд апраўдаў Бэйліса. За гэта адвакатаў пазней саміх судзілі.

**ЦАРСКАЯ "ВЕРАЦЯРПІМАСЦЬ".** Але ж поўнасцю ігнараваць інтарэсы "інародцаў" царызм ужо не мог. Тыя законы, што былі прыняты на карысць прыгнечаных народаў у час рэвалюцыі, працягвалі дзейнічаць. Для Беларусі істотнае значэнне меў закон 17 красавіка 1905 года аб верацярпімасці. Ён выклікаў масавы пераход у каталіцкую веру былых уніятаў, якія раней гвалтам заганяліся ў праваслаўе. Мясцовыя ўлады вымушаны былі забараніць каталіцкаму архібіскупу Шэмбеку перамяшчэнне па Беларусі і зрабіць шэраг іншых адміністрацыйных захадаў, каб прыпыніць гэты працэс. Для барацьбы з каталіцкай экспансіяй, а фактычна для русіфікацыі беларусаў, ствараліся праваслаўныя брацтвы. Царква прываблівала вернікаў тым, што арганізоўвала харавыя спевы, хрэсныя ходы. Адкрываліся таварыствы цвярозасці, ладзіліся народныя чытанні, дзе безупынна гучалі пропаведзі вернасці праваслаўю і рускаму цару. Тым не менш, толькі ў Віленскай губерні з 1905 па 1909 год у каталіцызм перайшло каля 18 тысяч чалавек. Большасць іх належала да так званых "упорствующих", якія толькі фармальна лічыліся ў спісах праваслаўных прыходаў, а патаемна хадзілі ў касцёл.

152

Рым увогуле выказваўся за ўзнаўленне ў Расіі уніяцтва, але праваслаўная царква не дапусціла гэтага, бо баялася, што не вытрымае канкурэнцыі. А гэта азначала, што беларусы (як і ўкраінцы) па-ранейшаму не карысталіся поўным правам на свабоднае веравызнанне. Іх пазбаўлялі выбару на карысць сваёй нацыянальнай рэлігіі, свайго адраджэння. Як і раней, праваслаўныя на Беларусі афіцыйна лічыліся рускімі, а каталікі -- палякамі. Новы закон толькі паглыбляў рэлігійны раскол беларусаў. Іх паланізацыя праз акаталічванне ўзмацнялася, а русіфікацыя, якая праводзілася праваслаўнай царквой, зусім не слабела. Больш таго, працэс русіфікацыі праваслаўных беларусаў падмацоўваўся тым, што яны поўнасцю ўраўноўваліся ў правах з рускімі. Быць рускімі станавілася выгадна.

**ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ.** Самабытнасць беларускага народа (ды і ўкраінскага) упарта не прызнавалася. Менавіта таму права на выкладанне сваёй мовы ў якасці асобнага прадмета ў школах 9 заходніх губерняў атрымалі ў 1905 годзе толькі палякі і літоўцы (закон 1 траўня). Праўда, на роднай мове дазвалялася выкладаць закон Божы, але ў гарадах ніхто з беларусаў гэтага не патрабаваў, а ў вёсках гаворка малапісьменных і блізкіх да сялянскага жыцця папоў і так для дзетак была зразумелай. Царызм і пасля рэвалюцыі не пайшоў на адкрыццё дзяржаўных школ, не даваў ходу нацыянальным мовам. Ва ўсіх дзяржаўных установах (у тым ліку і навучальных) размаўлялі па-руску.

## ПАМЯЦІ Ларысы ГЕНІЮШ

# "КІРКОЙ ПРАБІЛІ ЛЁС"

Жнівень -- месяц Ларысы Генію. Яна нарадзілася ў жніўні ў найпрыгажэйшых мясцінах Заходняй Беларусі, любіла гэтую пару года і часта паэтызавала ў сваіх вершах. 20 жніўня Усебеларускі жаночы фонд імя Еўфрасінні Полацкай і яго старшыня пісьменніца Валянціна Коўтун наладзілі паездку ў Зэльву, каб ушанаваць памяць славутай паэтэсы, жанчыны, пакутніцкі лёс якой нікога не пакідае абыякавым. І калі мы (прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў, Інстытута літаратуры Акадэміі навук, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Фонду культуры, Фонду славянскай пісьменнасці, Беларускага народнага фронта, Беларускага згуртавання вайскоўцаў) ехалі па дарогах Ларысы Геніюш, а за акном аўтобуса праплывалі цудоўныя беларускія краявіды, то міжволі згадваліся яе словы:

**"Сэрца, зямля мая, ніва ўраджайная,**
**Збожжа палеткі, істужкі дарог,**
**Неба цвітучае, радасць вянчальная,**
**Скарбам схаваная ў буйных лясох...**
**Войнамі спалена, недругам знішчана,**
**Рукі заломіш, праводзіш "гасцей"**
**І зноў уздымаешся над папялішчамі --**
**І далей загон твой на славу цвіце.**
**Вечна пакутная, вечна гаротная,**
**Сцятая -- зноў адрастаеш з камля,**
**Вечна жывучая і несмяротная**
**Ты, беларуская наша зямля!"**

Зэльва сустрэла цішынёй і спакоем невялікага правінцыяльнага гарадка, але сэрца поўнілася радасцю і тугой сустрэчы з Чалавекам-творцам, Асобай, якая навечна ўвайшла ў гісторыю Беларусі. А быў час, калі нам забаранялася ведаць, чытаць яе вершы, калі таталітарная сістэма імкнулася вынішчыць "нацыяналістаў" Геніюшаў фізічна, кінуўшы ў ГУЛАГ на 25 гадоў, разарваўшы сям'ю па-жывому: доктара Янку Геніюша -- у адзін канцлагер, Ларысу -- у другі, а малалетні Юрка застаўся сярод чужых людзей адзін на волю лёсу. Былі раскулачаны і высланы з роднай зямлі бацькі Ларысы, загінулі ў пекле вайны браты... Пра ўсё гэта мы даведаліся зусім нядаўна, калі адкрывалі для сябе трагічны, пакутніцкі шлях пісьменніцы па яе "Споведзі", якую ў 1990 годзе друкаваў часопіс "Маладосць". Я памятаю, з якой нецярплівасцю чакалі наступных нумароў часопіса, як імгненна расхватваліся яны ў бібліятэках і кіёсках і нельга было сцішыць боль у сэрцы ад усведамлення, як бесчалавечна праследаваўся яшчэ адзін нацыянальны талент. Мы сталіся сведкамі, чытаючы "Споведзь", як "слаўныя савецкія чэкісты" высочвалі Ларысу Геніюш і яе мужа ў Чэхаславакіі, як везлі ў разбураны пасляваенны Мінск, як вялі на допыт да Цанавы і з якой годнасцю і мужнасцю яна трымала сябе перад гэтым катам. Мы ганарыліся яе аўтарытэтам, які яна заваявала сярод вязняў канцлагера Інта, адчувалі, як паважалі яе людзі, лічылі яе святой, называлі Маці, як беларусы, рускія, украінцы, палякі, сабраныя ў Інце, чакалі яе вершаў, перадавалі іх з лагера ў лагер:

**Крывёй напоўніліся поймы рэк,**
**Бурліць адчаем слёз людскіх**
**разводдзе.**
**Гляджу на свет. Я -- лагернік. Я -- зэк,**
**Засуджаны на мукаў**
**чвэрцьстагоддзя...**

**Мне ўсё ўзялі, разбурылі сям'ю.**
**Кіркой прабілі лёс мой чалавечы,**
**Ланцуг накінулі на шыю салаўю**
**І між сабою падзялілі рэчы...**

Яе таленавітыя, глыбоказмястоўныя вершы, асабліва радкі, прысвечаныя роднай Беларусі, радзіме, якая была такой нялаcкавай і жорсткай да Ларысы, знаходзілі і знаходзяць водгук у душы кожнага, хто прачытае яе паэтычныя зборнікі: "Ад родных ніў" (1942), "Невадам з Нёмана" (1967), "На чабары настоена" (1982), "Белы сон" (1990).

**Аддалёк, бы дыван, зелянее**
**бульбянішча,**
**Паабапал дарогі адцвіў чабарок.**
**О зямля маіх прадзедаў, наша**
**прыстанішча.**
**Зноў на грудзі мне ўпала сляза**
**незнарок.**
**Пагдядаю навокал -- дачка твая**
**верная --**
**І люблю да адчаю, мой скарбе, цябе.**
**Шлях даўгі, адзінокі, усыпаны цернямі.**
**Толькі я не прыстала яшчэ**
**ў барацьбе...**

І яна сапраўды "не прыстала яшчэ ў барацьбе". Такое адчуваеш, дыхаючы паветрам яе малой радзімы, быццам і цяпер сярод нас жывая, нястомная, разумная і таленавітая Ларыса Антонаўна. І, здавалася, вось будзеш ісці па вуліцах Зэльвы і сустрэнеш яе --прытомленую гадамі і выпрабаваннямі лёсу, але нязломленую мудрую жанчыну, Маці нацыі, якая ў найцяжэйшыя часы падала ўсім нам прыклад, як трэба трымацца, пераадольваць невыносныя абставіны, захоўваць чалавечую годнасць, веру ў дабро і справядлівасць, бо яна з тых простых людзей, сялянак, якія прыйшлі ў храм Святой Тройцы ў Зэльве, каб адслужыць па ёй паніхіду, якую на беларускай мове правёў святар айцец Валянцін. Не цярпелася пабачыць і дом, дзе жылі Геніюшы. А ён стаіць якраз насупраць царквы, звычайны местачковы дом, падзелены на дзве палавіны, тая частка яго, што ў глыбіні двара, і была апошнім "прастанішчам", адкуль Ларысу Антонаўну хавалі ў красавіку 1983. І вельмі сімвалічна, што такой блізкай была яе дарога да Храма -- Бог шчодра надзяліў беларускую жанчыну талентам, багаццем душы, глыбокім разуменнем агульначалавечых, хрысціянскіх каштоўнасцей. Але здзіўляе, што да гэтага часу на доме няма мемарыяльнай дошкі і знешне нічога не нагадвае пра тое, што тут жыла славутая беларуская паэтэса, нават вуліца па-ранейшаму называецца Савецкай, а не вуліцай Ларысы Геніюш. І гэта не апраўданне, што дом пасля смерці маці сын Юрка, які жыў у Польшчы, прадаў чужым людзям, а зэльвенцы і так добра ведаюць, дзе яна жыла. Вядома ж, усё тут звязана і адухоўлена імем Ларысы Геніюш. Доўга стаялі мы каля дома, слухалі людзей, жанчын, якія выдатна памятаюць Ларысу, былі асабіста з ёй знаёмыя, сябравалі, падтрымлівалі ў цяжкія паслялагерныя гады. А яна магла б яшчэ жыць да гэтага дня, бо памерла на 73 годзе жыцця -- бязмерныя выпрабаванні, несправядлівыя абвінавачванні, замоўчванне творчасці і ўсяго, што яна зрабіла на карысць шматпакутнай Бацькаўшчыны, падкасілі здароўе, не далі дажыць да сённяшняга цёплага жніўня... А цяпер да яе магілы ідуць і ідуць людзі.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

---

*КРАЯЗНАЎЦА І ПІСЬМЕННІК Мікола КАЛІНКОВІЧ*

# ДРАМА АДНАГО ЖЫЦЦЯ

З ліста ад 16 кастрычніка 1986 года:

**"Сашка, прывітанне!**

**Увесь -- у архіве. Думкі ў 1813--1816 гг. у Брэсце. Галоўнае -- дзяжурства генерала ад кавалерыі і кавалера Калагрывава (у яго ад'ютантам служыў Грыбаедаў).**

**Бачу эпоху, бачу вобразы, дэталі і г.д. Фіксую -- хутчэй, хутчэй. Думаю, шукаю, параўноўваю. Спяшаюся. На жаль, часу ў Маскве мала -- позна кінуўся ў архіў. Тут працы на стагоддзі. "ЦГВИА" (Ляфортава) -- любімы архіў...**

**Званіў дамоў. Жонка сказала, што ад цябе ліст. Прыеду -- прачытаю. Адкажу ў суботу, калі не працуе архіў. Мікола".**

З ліста ад 31 кастрычніка таго ж года: **"...Працую ў архіве, што шукаю -- знаходжу. Будуць удакладненні ў біяграфію Грыбаедава перыяду, які мяне цікавіць, у прыватнасці, знайшоў дакладна, калі ён залічаны ад'ютантам да генерала Калагрывава і калі быў у шпіталі і г.д. Трэба яшчэ больш працаваць..."**

І ў пазнейшых лістах -- ізноў пра Ляфортаўскі архіў. Пра тыя знаходкі, што былі, канешне ж, зусім і не па тэме ненавіснай, думаецца мне, Міколавай уласнай дысертацыі. Але ж яна давала шанц прыўзняцца над руціннай працай. Архівы дарылі знаходкі, адкрыцці. Ужо незадоўга да ад'езду ў Тбілісі Мікола пісаў: **"У "ЦГВИА" трэба збіраць (паспець!) матэрыялы пра Савіча, Незабытоўскага, Каліноўскага, Ладу-Заблоцкага, Янушкевіча і інш. Было б 48 гадзін у сутках..."**

Неадольнае жаданне працаваць было ў Калінковіча заўсёды. Нават тады, калі і настрой не вызначаўся радасцю ці весялосцю. Ды толькі з часам і гэтае ўдавалася ўсё цяжэй. А планаў жа было шмат. Кніга нарысаў пра Туркменістан, дакументальны раман пра Керкінскі рэвалюцыйны бастыён, нарысы пра Лунінецкі край, кнігі пра Самойлу, Грыбаедава...

Заканчвалася вучоба ў аспірантуры. Заканчваўся маскоўскі перыяд у яго жыцці. Наперадзе Міколу чакаў Тбілісі -- горад, які ўлетку 1990 года падштурхне яго да бездані ці да вечнасці... І было ў яго як быццам нейкае нядобрае прадчуванне: "Была, здаецца, іпахондрыя. Праходзіць. Цяжка даюцца пералёты. Падумаю пра Тбілісі і... амаль уздрыгну. Навошта? Трэба нешта рабіць".

Нікому не было справы да таго, што ён -- член Саюза пісьменнікаў, аўтар па тым часе ўжо пяці кніжак... Каму была справа да таго, што ён апантана займаецца беларускім краязнаўствам. Якраз тады, у чаканні Тбілісі, з ліста ў ліст пераходзіць адзін і той жа матыў: **"Атрымаў два тваіх лісты, выразку. Дзякуй. А адказваю са спазненнем. Нейкая была маленькая душэўная дэпрэсія і іншы "нерабочы" стан, бывае. Занадта шмат у жыцці ўсялякага закуліснага бруду... У тым ліку -- і па размеркаванні".**

Расказваючы пра Міколу праз яго лісты, хачу падкрэсліць вось якую дэталь: Калінковіч пры ўсёй яго кампанейскасці, таварыскасці быў разам з тым і надзвычай жорсткім. Асабліва, калі гэта тычылася двурушных гаспадароў жыцця.

У той жа салдацкай "шматтыражцы", дзе служыў лейтэнантам і я, на дванаццаць гадоў раней пачынаў сваю афіцэрскую службу Васіль Ткачоў, драматург, празаік. Ды лёс склаўся... Словам, з арміі звольнілі. Нялёгка Васілю было пачынаць усё спачатку. Неяк "Нёман" у перакладзе на рускую мову надрукаваў некалькі яго апавяданняў. У біяграфічных звестках пазначылі, што скончыў Белдзяржуніверсітэт (а не Львоўскае вышэйшае ваеннапалітычнае вучылішча). Зрабілі гэта, відаць, каб ніхто не задаваў лішніх пытанняў: а чаму не служыць? Дзе, кім працаваў апошнія гады і г. д. У Мінску ж ужо жыў адзін выгнаннік з вайсковай журналістыкі -- паэт Сяргей Панізьнік, які "запляміў" сябе сяброўствам з Міхасём Забэйдам-Суміцкім. Мікола на тую "нёманскую" біяграфічную нататку пра Ткачова адгукнуўся выразна-акрэслена, даўшы і мне колькі добрых парад.

З ліста ад 22 лістапада 1986 г.: **"Так, "Нёман" правільна падаў звесткі пра вучобу і працу Васіля. Відаць, правільна пастуліла рэдакцыя. Розныя разумнікі не зразумеюць. Сваім корпаннем у чужой бялізне яны толькі губяць таленты, а не дапамагаюць ім". І далей -- пра неўміручае чыноўніцтва: "Махровая, сволочная бюрократия, гражданские и должностные трусы, увешанные лозунгами и дифирамбами, цветущие мерзавцы, пустота жизни".**

Побач з людзьмі таленавітымі, прыгожымі жывуць і зайздроснікі, і наўмыснікі, і шмат хто яшчэ... Многа іх было і вакол Міколы Калінковіча. Найперш -- людзі без таленту, тыя, каму зайздрасць і ноччу, як кажуць, спаць перашкаджала.

Не магу абмінуць і адзін прыкры для сябе выпадак. У 1987 годзе ашхабадскае выдавецтва "Магарыф" выдала кніжку гісторыка-краязнаўчай публіцыстыкі Міколы "Возвращение рассветной зари". Пад адной вокладкай -- дакументальная аповесць пра Героя Савецкага Саюза Івана Багданава, шэраг нарысаў пра туркменістанцаў -- удзельнікаў вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Юначы максімалізм прымусіў мяне аднесціся да кнігі надзвычай патрабавальна. Пра відавочныя недахопы, пра пралікі аўтара, схематычнасць у вымалёўцы многіх персанажаў я і напісаў у рэцэнзіі для часопіса "Ашхабад". Канешне ж, не забыўся сказаць і пра пэўныя вартасці кнігі. Але ж... Словам, справа была зроблена. Рэцэнзію надрукавалі ў дванаццатым нумары "Ашхабада". Часопіс з публікацыяй адправіў Міколу -- ў Тбілісі. Мікола колькі часу маўчаў. Відавочная крыўда... Ды і я пасля ўжо не рады быў, што зрабіў, відаць, не зусім тактоўна. Да таго ж варта было ўлічыць, што аповесць пра Багданава Калінковіч напісаў даволі даўно, ці не на пачатку сваіх сур'ёзных творчых вопытаў. Але ж пацішу канфлікт сышоў на нішто. Да гонару Міколы, ён аказаўся на вышыні.

Безумоўна, крытыкаваць Міколу Калінковіча ў творчасці можна шмат за што. Але пры гэтым нельга забывацца, што па-рознаму выконваюць адзін агульны клопат празаік, паэт, літаратуразнаўца, дакументаліст і краязнаўца. Найперш Мікола, як усялякі ўдумлівы краязнаўца, быў таленавітым збіральнікам. І толькі пасля ён выбудоўваў тканіну сваіх твораў. Канешне ж, для пошуку многіх фактаў быў адзін і той жа штуршок: збіраць матэрыялы пра землякоў, пра іншаземцаў і іх дачыненні да нашай Айчыны. Вось рухавік апантанасці ў краязнаўстве! Дапамаглі Міколу -- асабліва на пачатку творчых сцежак-дарожак -- і парады старэйшых руплівцаў на краязнаўчай ніве. У сваіх лістах ён неаднойчы згадваў збіральнікаў памяці пра Беларусь і беларусаў. Чытаю ў розных лістах Калінковіча: "Заўтра да нас (у госці, з жонкай) павінен прыехаць таленавіты краязнаўца У.П. Сазановіч (родам з Клецка), жыве ў Падмаскоўі. Ён добра ведае твайго земляка А.П. Ярохіна..." "...Пра Ходзьку. Аб ім ёсць цудоўная публікацыя нашага земляка з Ленінграда Валянціна Пятровіча Грыцкевіча -- у "Известиях АН ТССР", серыя грамадскіх навук, 1979--1981 гг. Дакладней, па-мойму, 1980 г. Ён мне дасылаў. Шукаў, ды не знайшоў. Баюся, што пераездам згубілася. Напішы сам В.П. Грыцкевічу. Ён адкажа".

**"...Арыенціры ж даў Кахаnоўскі. Сказаў (ці напісаў): "Мікола, шукай сляды землякоў у Туркменіі. Тузін, Малібожка..." Вось і знайшоў". І ўжо -- з Тбілісі: "Даслаў быў ліст Кахаnоўскі. Што-нішто параіў. Пра росшук. Але гэта ведаў і сам. У душы дзякую яму. Пазней адкажу".**

І зараз, пэўна, памятаюць Міколу Калінковіча беларускія краязнаўцы Валянцін Грыцкевіч, Анатоль Ярохін, Уладзімір Сазановіч.

Але ж урокі апантаных даследчыкаў засвойваў творча, сумленна асэнсоўваў свае недахопы, пралікі. У студзені 1987 года ён пісаў з Тбілісі: **"...Што б там ні было, галоўнае, што зроблена... А дарабляць можна бясконца. Іншы раз гэта трэба, іншы раз -- проста не. Адным словам, сутнасць жыцця заключаецца ў зробленым. А карысць ад яго не адразу бачна. Асабліва, калі зробленае грунтуецца на сумленні, на жаданні "все сущее увековечить"**

Заканчэнне. Пачатак у № 35.

# СЯРГЕЙ НОВІК-ПЯЮН

**26 жніўня памёр старэйшы беларускі пісьменнік Сяргей Новік-Пяюн (Сяргей Міхайлавіч Новік). Ад нас пайшоў чалавек рэдкага, трагічнага лёсу, шчыры і самаахвярны змагар за нацыянальнае Адраджэнне Беларусі.**

**Нарадзіўся Сяргей Новік-Пяюн 27.08.1906 года ў вёсцы Лявонавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў збяднелай сялянскай сям'і. У 1924 годзе скончыў Нясвіжскую рускую гімназію, затым беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні (1926). У тым жа годзе стварыў для землякоў беларускі народны хор, народны тэатр, бібліятэку і тайныя беларускія школы. За актыўны ўдзел у руху за нацыянальнае Адраджэнне Беларусі быў асуджаны пілсудчыкамі спачатку на пяцігадовую ссылку на Памор'е (1926--1931), а ў 1931 -- пад паліцэйскі нагляд у горад Слонім. З сакавіка па верасень 1939 года ён -- палітычны вязень Баранавіцкай турмы.**

**У савецкі час працаваў інспектарам Слонімскага райана (1939--1940), дырэктарам Слонімскага краязнаўчага музея (1940--1941). У 1943 годзе за антыфашысцкую дзейнасць быў асуджаны да пакарання смерцю, трапіў у Калдычэўскі лагер, дзе цудам выратаваўся ад расстрэлу. Пасля вызвалення партызанамі з лагера працаваў дырэктарам Слонімскага музея (1944). 14.12.1944 года арыштаваны, а ў сакавіку 1945 года ваенным трыбуналам НКУС Баранавіцкай вобласці асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў на Калыме. Рэабілітаваны ваенным трыбуналам Беларускай ваеннай акругі 5.11.1958 года. У 1959 годзе вярнуўся на Беларусь, жыў у Слоніме, Нясвіжы, а з 1960 года ў Мінску.**

**Друкаваць вершы пачаў у 1925 годзе ў віленскіх прагрэсіўных беларускіх газетах і часопісах. У Вільні асобнымі выданнямі выходзілі п'есы "Цудоўная ноч" (1927), "Ёлка Дзеда Мароза" (1927), "Прадка над крыжам" (1939), у зборніку "Сцэнічныя творы" (1927) -- п'еса "Пакой у наймы". Аўтар зборніка паэзіі "Заўсёды з песняй" (1984), кніжкі вершаў для дзяцей "Зорачкі ясныя" (1986).**

**На многія гады гвалтоўна адарваны ад роднай бацькаўшчыны кратамі ўсіх рэжымаў, Сяргей Новік-Пяюн склаў песні, якія загучалі ў народзе, як гімн свабодзе і незалежнасці (песні "Зорачкі", "Краска шчасця", "Над Шчарай" і інш.).**

**Светлая памяць пра паэта-змагара, сапраўднага патрыёта-беларуса Сяргея Новіка-Пяюна будзе жыць у нашых сэрцах, пакуль жыве Беларусь.**

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.**

*Калектыў "Голасу Радзімы" таксама смуткуе з прычыны смерці свайго даўняга аўтара і сябра газеты Сяргея НОВІКА-ПЯЮНА.*

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

**(А. Блок). Мастацкасць, вядома, таксама патрэбна. Але тут -- складаная катэгорыя. Чым пісаць нешта з прэтэнзіяй на мастацкасць, лепш (з агульнай карысцю) узняць забытае, але патрэбнае. Ды і, увогуле, права на мастацкасць мае той, хто ёй натолены ад нараджэння. Астатняе -- "мастацкае рамяство". Хаця памкненне да мастацкасці, як і да нечага астатняга, -- вялікая рэч...". І далей: "Паўсюль -- перабудова. І няма гарантыі, што нетрывалыя элементы ў незразумелай імі віхуры не згубяць нават тое чалавечае, што мелі. Добра, калі гэта да іх дойдзе пры жыцці. Пакуты сумлення -- найвышэйшая ступень ацэнкі чалавечай дзейнасці.**

**З 2-га лютага да 2-га сакавіка адпраўляюся ў Маскву: перадабарона і іншае. Наведаю Мінск. Магчыма, Лунінец.**

**Адтуль паведамілі (пасылаў "Вяртанне...", некалькі экземпляраў раней), што кніжка цікавая з пункту гледжання факталагічнасці, пошуку, дакументалістыкі, патрыётыкі і публіцыстычнасці. Адзначылі ў нейкай ступені дэкларатыўнасць -- пра І.В. Багданава і нарысаў пяць увогуле прызналі на высокім узроўні. Адзначылі, што сапраўдным аўтарам менавіта не хапае патрыятызму, пачуцця абавязку.**

**Увогуле, усё гэта -- патрэбная непатрэба. Свае здабыткі і пралікі ведаю сам. Маю на тое права і погляд. Дыялектыка жыцця заключаецца ў руху, у пастаяннай працы над сабой..."**

Што дадаць да такога самааналізу? І ў гэтых радках праяўляецца своеасаблівая мужнасць. Мы ж часам не ведаем, як сказаць праўду сабе. Што ж тады казаць пра сумленнасць, праўдзівасць перад іншымі, няхай сабе і знаёмымі людзьмі?! Мікола вызначаўся ўнутранай смеласцю. Не выстаўляў яе напаказ.

Яшчэ адна грань характару, паводзін краязнаўца, якую я ўжо крыху абазначыў... Але перш чым назваць яе, ізноў жа -- слова самому Калінковічу.

З ліста ад 27 чэрвеня 1986 г.:

**"Добры дзень!**

**Атрымаў два тваіх лісты, а адказваю на іх адным... Галава ідзе кругам. Шмат ношаў. На крайні выпадак, тры. Абставіны на кафедры -- складаныя, звягі, даўнія рахункі паміж сабою. Перападае і аспіранту -- ні за што. Се ля ві. Абмеркаванне ўсё адкладваюць, пераносяць і г.д...."**

З ліста ад 14 чэрвеня 1986 г.:

**"Прывітанне!**

**Прабач, што замоўк...**

**Апаскудзілі ... душу -- гоняць у Тбілісі.**

**30.04. было размеркаванне. Ліпа. Сынкі і мярзотнікі, лізаблюды, блатнікі і іншая дрэнь нікуды не ездзіць. Ніколі. А я ўжо стаміўся і стаміў сям'ю. Але будзем трываць..."**

І з ліста ад 5 ліпеня 1986 г.:

**"А зараз напружана рыхтую для выдавецтва "Полымя" кнігу краязнаўчых нарысаў -- пра Лунінеччыну. 250 старонак. За ліпень хачу завяршыць. Усё гатова даўно -- кампаную, сістэматызую, шліфую толькі... Пяць раздзелаў.**

**На пачатку жніўня хачу сам адвезці ў Мінск і пабыць дзён 10 на Беларусі. За кошт адпачынку. Пакуль не бяру. Абставіны не дазваляюць. Потым паглядзім. А пасля адпачынку -- за гэтую чортаву дысертацыю засяду па-новаму. Відаць, прыйдзецца без першага абмеркавання. Тое ж -- абставіны, бойка паміж кіраўніком і бандай з кафедры працягваецца. Камедыя!.. Замест сапраўднай работы займаюцца чорт ведама чым -- "с ученым видом знатоков".**

Яго характар і сумленне ўжо ў тым праявіліся, што Мікола Калінковіч бачыў нутро хімеры, якая хацела выставіць сябе адладжаным ідэальным грамадска-палітычным механізмам. Бачыў, разумеў і, наколькі хапала смеласці, магчымасцей, гаварыў аб гэтым услых. Не баяўся гаварыць праўду. І не баяўся праўдзе ў вочы глядзець.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**АЖЫВАЕ МІНУЛАЕ**

# ЗАСТУПНІК БАЦЬКАВАЙ СПАДЧЫНЫ

Па-ранейшаму шумяць верхавінамі выносныя і цяністыя сосны над дахам дома дзядзькі Якуба. Захаваўся стары сад, гонар паэта, яшчэ пладаносіць. Духмяныя яблыкі, сакавітыя грушы, як сонцы, гойдаюцца на пасівелых, гарбатых і шурпатых галінах... Праўнукі гукаюць, шчабечуць, як птушкі, ласуюцца смачнымі, прывабнымі і духмянымі дарамі саду. Асеннія кветкі яркім дыванам стракацяць, праменяць на сонцы. Каля пунькі стаіць тая лаўка, на якой любіў пасядзець паэт у цішы, у адзіноце. Прыслухацца да шумлівай лістоты, успомніць, запоўніць нейкім чынам тую пустэчу, што давіла грудзі, болем гукала ўжо многа вёснаў...

За хатай купчастая, раскошная бяроза ў залацістай хустцы самотна гамоніць з дубамі вакол яе. Аб чым тужыць беластволая, ад часу шурпатая старая бяроза?.. Аб гэтым ведае малады дуб — сын-першынец, які сягоння прыйшоў на сустрэчу да яе, як калісьці ягоны бацька прыйшоў сюды на паклон да бярозы, сеў на лаўку і доўга задуменна глядзеў на дубы, што шчыльнай чарадою слухаюць у самоце адвечную песню бярозы... Сіні капялюш ляжыць на каленях. Акруглы, поўны твар, здавалася, застыў, толькі вочы выдавалі настрой гаспадара. У іх згадваўся смутак, журба, прываблівасць чагосьці роднага, блізкага і ў той жа час адлучнасць ад таго зямнога жыцця, што напаўняе чалавечую істоту... Ён яшчэ раз кінуў позірк на кучаравую бярозу, на дубы. Самы малады дуб пасадзіў брат Міхась з бацькам. Яны выкапалі яго ў батанічным садзе і пасадзілі ў памяць па загінуўшаму Юрку ў 1947 годзе. Цяжка ўздыхнуўшы, Даніла пайшоў да бярозы... гладзіў рабы, шурпаты ствол. Шчыльна прытуліўшыся, слухаў напеў залацістай лістоты. Сын прыйшоў у свой дзень нараджэння пакланіцца маці, бацьку. Яны далі яму дзень, перадалі сваю вясну кахання 1914 года ў Пінску і назвалі першынца гучным, ёмістым імем Даніла.

Цётка Маня, самая малодшая з роду Міцкевічаў і пакуль што, дзякуй Богу, жывая памяць славутай Альбуці, вызначыла імя свайго пляменніка па-свойму:

-- У Мікалаеўшчыне, мой ты Сенечка, быў сілач Даніла, які раскідаў капу панскіх паслугачоў, нібы снапы тыя ў полі. Яны, Божа мой мілы, хацелі скруціць Данілу за тое, што той павыцягваў тоўстыя дубовыя слупы і пакідаў іх у Нёман. Дык я гэта і кажу: нейкі Ксавэры намерыўся забраць дар Нёмана, шырокі выган-пашу, бо рэчка, зрабіўшы дугу, пакаціла свае воды далей ад вёскі. Дык, мусіць, Сенечка, Костусь і назваў свайго першынца Данілам. Яно ж, пэўна, гэтак... Ці не той Васіль, герой з "Нёманавага дару", быў як той казаў, двайнік Данілы.

Магчыма, цётка Маня мае рацыю: яе пляменнік вырас сілачом, як той дуб, што над Нёманам, пра які пісаў яе брат Костусь:

**Сілачом стаіць**
**Дуб разложысты,**
**І здалёк відаць**
**Пышны верх яго.**

Так або інакш, бацька не толькі ганарыўся сваім сынам, давяраў яму, шкадаваў яго, магчыма, крыху песціў, але ж, як самаму блізкаму і адказнаму, узваліў на яго плечы нялёгкі клопат па гаспадарчых справах. Пра гэта гаворка пойдзе пазней.

Зараз брат Даніла душой і сэрцам востра адчуў крэўную блізкасць да родных каранёў. Непадуладная сіла паклікала, завалодала яго пачуццямі, далёкая мінуўшчына настойліва пагукала. Усё пражытае і перажытае віруе гарачай памяццю. Яго дзіцячыя гады -- гады вандровак настаўнікаў Міцкевічаў. Ужо праз год пасля нараджэння сына бацькі, ратуючыся ад немцаў, пакідаюць Пінск, пакідаюць Бацькаўшчыну... Едуць да сваяка Ігната Юр'евіча Міцкевіча ў вёску Старыкава Дзмітраўскага павета, непадалёку ад Масквы. Дзядзька Ігнат Юр'евіч дапамог любімаму пляменніку знайсці заробак на кавалак хлеба, дах над галавою. Не паспелі, як той казаў, абагрэцца на новым месцы, нядобрая вестка пастукалася ў вокны настаўніцы цёткі Марусі. Яе кармільца, апору і надзею забралі ў войска... На душы было неспакойна, усчалася імперыялістычная вайна. Страх закраўся ў сэрца маладой настаўніцы земскай школы. Яна засталася з малым Данілам. Вайна халоднай і галоднай рукою дакранулася да сціплага побыту. Давялося прадаць сёетое з набытых рэчаў, каб не раніў сэрца малы сынок сваім дзіцячым: "Мама, хачу есці". У мацеры душа разрывалася, а тут ізноў пераезд на месца вайсковай службы мужа ў Перм. Не паспелі там пажыць, як прапаршчыка Канстанціна Міцкевіча пасылаюць на далёкі Румынскі фронт. Адзін толькі ліст атрымала Марыя Дзмітрыеўна ад мужа, а дома гора сёрбалі поўнай лыжкаю. Ды ўсё ж Бог пашкадаваў яе: атрымала чаканую вестку -- мужа скасавалі са службы і эвакуіравалі ў горад Абаянь Курскай губерні. Гэта асабліва не палохала практычную і спагадлівую жанчыну. Яна цвёрда вырашыла: паедуць працаваць на вёску, а там малако, паветра чыстае і гаючае, дасць Бог, ачуняе, стане на ногі "яе Кастусёк". І вось Міцкевічы з малым Данілам на руках едуць у Курскую губерню. Сям'я пасялілася ў вёсцы Якаўлеўка. Завялі казу, з'явілася на ўласных градах агародніна. Чыстае паветра, праца на агародзе, малако пайшлі на карысць паэту.

**Сымон БЕЛЫ.**

**(Працяг будзе).**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"** Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## ПАВАЖАНЫЯ НАШЫ ЧЫТАЧЫ!

**Калі вас цікавіць гісторыя Беларусі, аднаўленне яе традыцый, праблемы адраджэння нацыянальнай спадчыны, застаньцеся і надалей з "Голасам Радзімы". Кошт падпіскі на IV квартал усяго 120 рублёў на 1 месяц і 420 рублёў на 3 месяцы.**

**Спяшайцеся! Падпіска будзе доўжыцца да 15 верасня.**

# "КІРКОЙ ПРАБІЛІ ЛЁС"

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.)..

На вялікі жаль, спраўджваецца выслоўе, што толькі пасля смерці мы пачынаем ацэньваць чалавека, разумець, каго мы страцілі.

Зэльвенскія могілкі — на высокім, прыгожым месцы, з якога адкрываюцца шырокія прасторы: з аднаго боку — недалёкі лес, з другога — блакіт вялікага возера, на беразе якога стаяць акуратныя дамкі з белай цэглы, а над могілкамі ціха шумяць лісцем беластволыя бярозы. Ларыса спачыла побач з мужам Янкам Геніюшам. Стаіць над іх магіламі адзін агульны помнік з чорнага граніту з простымі надпісамі даты нараджэння і смерці. І калі мы ішлі да гэтага святога месца, можна было пачуць словы: "Хто б мог падумаць, што да Ларысы будзе прыязджаць столькі народу..." Відаць, мясцовыя жыхары памятаюць, што і пасля рэабілітацыі яна знаходзілася пад пільным наглядам КДБ, пераапранутыя чыны якога кантралявалі нават яе пахаванне, каб не было ніякіх "дэманстрацый" і "непатрэбных выказванняў".

А цяпер гучалі над яе магілай шчымлівыя словы ўдзячнасці і любові. Даніну павагі яе светлай памяці выказалі паэты -- Валянціна Коўтун, Артур Вольскі, Алег Зыніч, Юрка Голуб, Станіслаў Суднік, мастак Мікола Купава, народная артыстка рэспублікі Марыя Захарэвіч, магілу асвяціў айцец Валянцін. Хвілінай маўчання ўшанавалі яе памяць людзі. І быццам улівалася ў душу прыгажосць жнівеньскага наваколля, над якім луналі смутак і боль, светлая туга, але і неадольная радасць жыцця, дзе заўсёды будуць гучаць несмяротныя словы Ларысы Геніюш, у лёсе якой увасобіўся лёс Бацькаўшчыны..

**Беларусь мая, спеўная**
**летняя, жніўная,**
**Палавеюць загоны**
**густой ярынай,**
**Напаю свае вочы**
**блакітам і нівамі**
**І лясоў тваіх цьмяных**
**суровай красой.**

**На дарогах жыцця**
**слёз нап'юся папоўніцы,**
**Кожны крок мне**
**да болю бывае цяжкім.**
**Толькі ласкай тваёю**
**душа мая поўніцца,**
**Імя тваё светлае**
**ў сэрцы маім.**

І думалася: дзякаваць Богу, што спачывае яна ў роднай зямлі і душа яе поўніцца любасцю да гэтай адвечнай прыгажосці Радзімы...

Пазней у раённым Доме культуры адбылася ўрачыстасць, прысвечаная памяці Ларысы Геніюш. Пра яе жыццёвы і творчы шлях гаварылі старшыня Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Зуёнак, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых Далідовіч, дырэктар Інстытута літаратуры акадэмік Віктар Каваленка, свае прывітанні праз Уладзіміра Палупанава перадаў міністр замежных спраў спадар Сянько, гучалі вершы Ларысы Геніюш. Было выразана стварыць музей паэтэсы ў Зэльве, былі падараваны будучаму музею першыя экспанаты, якія прыняў намеснік старшыні райвыканкома Зэльвы, аб'яўлена аб зборы сродкаў на помнік Ларысе Геніюш. Будзем спадзявацца, што гэтыя ініцыятывы творчай інтэлігенцыі і зэльвенцаў знойдуць падтрымку ў кожным беларускім сэрцы, каму дарагое роднае слова і гісторыя Бацькаўшчыны, і тым самым будзе пракладзена і ніколі не зарасце сцяжына народнай памяці да таленавітай і мужнай дачкі беларускага народа.

**Лідзія САВІК.**

# ЦУД КОЛЕРУ ГУСТОГА МЁДУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Дзесяць год працаваў Міша на заводзе мастацкай керамікі ў Івянцы, завочна скончыў тэхнікум, стаў майстрам, а потым адчуў, што вялікага начальніка з яго не атрымаецца, ды і самому выконваць нечыя загады больш ужо не хацелася. Той жа стары ганчар-настаўнік тады параіў: кідай усё, садзіся за станок і займайся сваёй справай. Не ведаю, але, напэўна, ёсць у жыцці нейкая звыш даная заканамернасць: калі чалавек знаходзіць у рэшце рэшт сваю ўласную сцяжынку, тое самае прызначэнне, для якога Богам і быў засланы на гэты свет, то капрызная ўдача раптам становіцца пакорлівай, і поспех нібы сам пачынае шукаць чалавека. Нешта такое, напэўна, з Мішам і адбылося. Знайшліся людзі з грашыма, якім захацелася ўкласці іх у нейкую вытворчасць, і сёння Міша мае добрую ўласную майстэрню з патрэбным абсталяваннем. Аляксандр Казакевіч, старшыня калгаса, дзе зараз працуе Міша, майстра любіць і прыгажосць разумее. І калі аднойчы на справаздачна-выбарчым сходзе нехта з менш чулых да мастацтва калгаснікаў назваў Мішу дармаедам, абараніў майстра і растлумачыў, што жыццё ўпрыгожваюць не толькі высокія надоі і вялікія намалоты. З той пары аднасяльчане звяртаюцца да Мішы толькі на "вы" і нават часам набываюць яго работы. Удзельнічаў Міша ўжо і ў выставе. Пра тое, як ён туды трапіў, гаворыць вельмі проста: "Мяне знайшлі на Камароўцы". Нейкая жанчына, вялікая аматарка керамікі, набыла яго вазу і паказала сваёй сяброўцы, якая працавала ў фірме, што існуе пры Саюзе народных майстроў. Дзякуючы яе дапамозе Мішыны работы і апынуліся на адной з рэспубліканскіх выстаў.

Гавораць, каб спячы добры хлеб, патрэбна Божая мука ды чортава рука. Напэўна, у Мішы ёсць і тое, і другое. Інакш як растлумачыць, што гліна ва ўсіх амаль аднолькавая, ганчарныя кругі таксама падобныя, але ж у аднаго самы просты сподачак крывым атрымліваецца, а ў другога за што ні возьмецца -- сапраўдны твор мастацтва нараджаецца.

Міша Каробкін жыве не ў сталіцы, праблемы адраджэння і абуджэння нацыянальнай самасвядомасці яго не вельмі хвалююць, хаця, на мой погляд, менавіта ён і іншыя такія ж майстры і ствараюць сапраўдны падмурак нашай культуры, бо нават, калі людзі пакідаюць гэты свет, творы іх рук застаюцца, і менавіта па іх, а не па размовах і спрэчках, словах і лозунгах, што пойдуць разам з намі, як вада ў пясок, нашчадкі будуць судзіць аб нашым часе.

На развітанне Міша падарыў мне цудоўную высокую амфару, якая ўзрушае прастатой і высакароднасцю сваіх формаў, бездакорна гладкай паверхняй колеру густога мёду. Але ж ніяк не спалучаецца дасканалая прыгажосць з грубай рэальнасцю нашага сённяшняга жыцця: неасцярожны рух нецвярозага мужчыны ў метро -- і раскалолася ваза. Дадому я давезла толькі чырвоныя чарапкі і ўспамін аб цудзе, які мог стаць маім... А раптам яшчэ не ўсё страчана, і цуд адбудзецца, бо гавораць жа, што посуд б'ецца на шчасце? Пажывем, пабачым...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1268. Падпісана да друку 5. 9.1994 г.